PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 41 (1900) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 11 КАСТРЫЧНІКА 1992 г. ЦАНА 2000 зл.



*У красавіку 1987 г. Анджэй Вайда частку здымкаў да кінакарціны „Д'яблы" рабіў у Белавежы. У ёй статыстамі выступалі многія жыхары Белавежы і Гайнаўкі. Вось некаторыя "акцёры" ў вопратцы з мінулай эпохі. Апазнаюць яны сябе?*

*Фота Войцеха Рынажэўскага*

## БЕЛАСТОЧЧЫНА — ТЭАТРАЛЬНА-ФІЛЬМАВАЯ БАЗА КРАІНЫ

Беласточчына — гэта месца, дзе нарадзілася шмат людзей, якія адціснулі свой выразны след у розных сферах людской актыўнасці. Адгэтуль м. інш. выводзяцца шматлікія творцы, звязаныя жыццёва з тэатрам і кіно. Зраблю тут кароткі агляд. Пачну з Беластока.

На жаль, усё яшчэ нямногія ведаюць, што ў сталіцы нашага рэгіёна ў 1896 г. прыйшоў на свет Дзяніс Каўфман, які потым, пад псеўданімам Дзіга Вертаў, праславіўся як чалавек, які „эмансіпаваў дакументальны фільм і стварыў падмурак яго развіцця як аўтаномнай галіны фільмавага мастацтва". Біяграфію гэтага славутага савецкага рэжысёра, піянера дакументальнага кіно, фільмавага тэарэтыка і паэта-футурыста знойдзем ва ўсіх фільмавых энцыклапедыях свету. Д. Вертаў памёр у 1954 г.

Два гады да нараджэння творцы „Чалавека з кінакамерай" у Беластоку абвесціў сваё існаванне іншы савецкі рэжысёр і акцёр — Барыс Тамарын (сапраўднае прозвішча Хмыраў). Рэжысіраваў ён п'есы ў маскоўскіх, ленінградскіх і ў мінскім тэатрах. З 1915 года выступаў ён на сцэне і здымаўся ў кіно. Даваенныя кіналюбіцелі агледалі яго ў „Фліртах царскага гусара", „Дзекабрыстах", „Цару і паэце".

Зробім невялікі эскурс у часе. У 1759 годзе Людвіцы і Адаму Тэшнерам нарадзілася (шчаслівым бацькам быў абіўшчык на двары гетмана Я. К. Браніцкага) дачка, якую назвалі Саламеяй. Дабілася яна потым славы (пад прозвішчам Дэшнер) актрысы і спявачкі. Ад чэрвеня 1802 г. да канца жыцця (пам. 1806 г.) кіравала яна гродзенскім тэатрам. Мела прывілею ставіць п'есы ў цэлай гродзенскай губерні. Актрысай і дырэктарам тэатра была таксама Рэна Рушчыц. Нарадзілася яна ў Беластоку ў 1901 г. Да II сусветнай вайны вяла яна супольна з мужам, Уладзіславам Шуміловічам, уласны тэатральны ансамбль, які выступаў на правінцыі. У 1944 г. брала яна ўдзел у арганізацыі Кааператыўнага тэатра ў Беластоку, а ў гадах 1950—63 выступала ў тэатры імя А. Вянгеркі. Памерла ў родным горадзе ў 1965 г.

У XIX ст. жыў і дзейнічаў тут акцёр і дырэктар тэатра Юліян Кацюцэвіч. Народжаны каля 1800 г., выступаў у нашым горадзе ў канцы 1852 г. у ансамблі Р. Банькоўскай, а ў 1853 г. кіраваў уласным ансамблем. Памёр у 1869 г. у Варшаве.

Год 1922 „падарыў" польскай кінематаграфіі двух вядомых рэжысёраў і фільмавых сцэнарыстаў — Чэслава Пятэльскага і Вітальда Лясевіча. У 1937 г. „далучыў" да іх іншы рэжысёр і адначасова акцёр, адзін са стваральнікаў Адэкватнага тэатра ў Варшаве, Генрык Баўкалоўскі. У 1956 г. з'явіўся на свет у горадзе над Белай рэжысёр і аўтар п'ес для лялечнага тэатра Войцех Шаляхоўскі (той ад „Пана Файнацкага" і „Красналя Адсапкі").

Мае Беласток і сваіх акцёраў. Народжаная ў 1939 г. Міраслава Мархэлюк дабілася вялікага поспеху як актрыса гэтак званага „другога плана". Апошнім часам глядзелі мы яе ў некалькіх тэлевізійных фільмах: „Уцёкі з аблюбаваных мясцін", „Камедыянтка", „Белая візітная картачка". У сваю чаргу выпускніца варшаўскай тэатральнай школы Анна Рамантоўская (нар. 1950) праславілася перш за ўсё як актрыса па радыё (памятаем яе м. інш. з галоўнай ролі ў серыі радыёпастановак аб Ані з Зялёнага ўзгорка, за якую атрымала яна ў 1980 г. узнагароду старшыні Камітэта па справах радыё і тэлебачання). Апрача таго здымаецца яна ў кіно і ў тэлевізійных фільмах (шмат кінагледачоў напэўна запамятала ролю Тэрэсы ў „Мастацтве кахання" Я. Бромскага). З тэатральных сцэнаў і фільмовых планаў добра ведаем памёрлага ўжо Віктара Гратовіча (1919—1985). Значнага поспеху на падмостках тэатраў у Беластоку, Чанстахове, Лодзі, Кракаве і Сасноўцы дабіўся таксама Ежы Барбурскі (1927—1987).

Пакіньма ўжо, аднак, Беласток і агледзьма Беластоцкае ваяводства. Саколка слушна ганарыцца Людвікам Адамам Дмушэўскім (нар. 1777), вядомым акцёрам, спеваком, рэжысёрам і дырэктарам тэатра — адным з найбольш папулярных артыстаў тагачаснай Варшавы. Гэты сакалчанін залічваецца таксама да першых летапісцаў польскай сцэны. Памёр ён у сталіцы ў 1847 г.

Бельск-Падляшскі „прадстаўляе" акцёр Юліян Штатлер (нар. 1914) — па

*Працяг на стар. 3*

### МОЙ БРАТ ЦЯПЕР СПЯВАЕ „РАП"

Калісьці, бадай у 1983 годзе, адказны сакратар беластоцкай вячоркі памясціў на старонцы, тады н-р 6, прысвечанай гаспадарчым справам, цэнам у крамах і на базары, мой кароценькі фельетон „Цыбуля". Гэта быў жарт і тэст. Для каго? У тэксціку мовілася пра тое, як цяжка жывецца нам, беластоцкім студэнтам. Харчуемся мы сухім хлебам, яблыкамі ды цыбуляй, якую найчасцей купляем у кіёску „Пані Прамілай" на вуліцы Вясёлай. Ходзім на заняткі, жывем мы ўжо спакойна, бо лепш плакаць над цыбуляй, чым ад слёзатачывага газу.

Мае калегі і сябры з універсітэту — хто быў арыштаваны за палітычную дзейнасць рознага роду (вялікая частка з іх, якіх нейкі ананімны і цяпер надта разумны справаздаўца, што тады, пэўна, і не нюхаў пораху, вылічвае ў „Рубежах" па прозвішчу, не вытрымала, здалася), сядзелі, хто афіцыйна з'ехаў за мяжу (а так, пару асоб адправілі на кенгуру), хто выражаўся ў „Аранжавай альтэрнатыве", хто час ад часу клікаў „Ідзіце з намі!", не баючыся вадзяных гарматак і дубінак. А хто плакаў ад цыбулі. Рэдактар да канца не верыў, што цэнзура пусціць гэты фельетон. Цэнзар, убачыўшы кароценькі тэкст на старонцы, дзе нічога не магло знайсціся „няслушнага", увогуле яе не чытаў. Але чыталі яе яго начальнікі ў Варшаве, і праз беластоцкую студэнцкую цыбулю пару асобам было не да смеху.

Цяпер у нас дэмакратыя. Зусім няма патрэбы лезці пад дубінкі, газ ці нават кулі. Цэнзура непатрэбная, бо кожны павінен думаць „слушна" і кожны ведае, як. Калі Казік Сташэўскі меладэкламуе ў Сопаце „рапам" „няпланавую" песню „Валэнса — аддай мае сто мільёнаў!", мусіць адразу зазначыць збянтэжаным канферансье, слухачам, адным аслупянелым ад жаху нахабнай ерасі, другім — захопленым Казікавай адвагай і адчаем, што гэту песню прысвячае людзям з пачуццём гумару. Прэзідэнт не абразіўся, толькі выказаў думку са сваёй сядзібы, што і Казік, і яго песня — нелагічныя. А гэта песня, сапраўды, не лагічная, і не трэба было б яе пару разоў раней запісваць на тэлебачанні, не трэба было б яе не пускаць у праграму і потым выходзіць на эстраду ў кароткіх нахабных нагавічках і крычаць усяму свету, што вось такі Казік чагосьці хоча ад сваіх герояў. „Popatrz, jacy nienormalni", далей плачуць над цыбуляй; бо няма ад чаго іншага? Мой брат спявае „рап" для людзей сапраўды дасціпных, якія ўмеюць смяяцца, нават праз слёзы. Гледзячы на тэатр палітыкі. А самі ж напісалі драму і раздалі ролі!

**МІРА ЛУКША**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ, ШТО...

*Białystok — zdrowe miasto.*
*(Gazeta Współczesna, nr 185)*

Няхай будзе і так.

* * *

*„Jeśli zabraknie ci alkoholu, coca-coli, szampana czy szczoteczki do zębów, możesz w każdej chwili liczyć na naszą pomoc"* — запэўнівае Radio Taxi 919.
*(Gazeta Współczesna, nr 185)*

Хопіць толькі сесці ў таксі 919, а адразу адчуеце сябе як нейкі Радзівіл... пасля калектывізацыі.

* * *

*Malinowa sala, w której prezydent przyjmuje listy uwierzytelniające lub zaprasza polityków na wspólny obiad, wyposażona jest w najcenniejszy komplet mebli. Książę Konstanty otrzymał je w prezencie ślubnym od cara Mikołaja I.*
*(Gazeta Współczesna, nr 185)*

Ёсць з чаго пачынаць аднаўленне манархіі. А закон супроць абортаў гарантуе працяглацсь дынастыі свайго ўзгадавання.

* * *

*Sprzedam — zamienię dom na Bielsk.*
(Аб'ява ў *Gazecie Współczesnej, nr 185*)

Што на гэта радныя і ўправа Бельска?

* * *

*Po 1918 r. do władzy (w II Rzeczypospolitej — red.) dochodzili w przeważającej części zawodowcy. Wykształceni w systemach zaborczych profesjonalni urzędnicy — austriaccy, rosyjscy, pruscy. Oczywiście Polacy, ale funkcjonujący w tamtych systemach. Cała generalicja, kadra oficerska wykształciła się w Petersburgu, Wiedniu, Berlinie, Moskwie.*
*(Kurier Poranny, nr 203)*

Відаць, пільнасць паслоў і сенатараў у II Рэчыпаспалітай не была ні ў палове так вялікая, як у III-й. Як жа ж яны не даўмеліся выдаць закон супроць гэтых агентаў?

* * *

*W Bielsku Podlaskim na 50 przypadków udanych zakupów tylko cztery razy odmówiono sprzedaży wódki nieletnim...*
*(Gazeta Wyborcza, nr 223)*

У Бельску — klient nasz pan.

* * *

*Masoni wychodzą z ukrycia.*
*(Polityka, nr 39)*

A kiedy wyjdą Żydzi i cykliści?

* * *

*Беларускае мовы на берасьцейскіх вулках і ў берасьцейскіх кабінэтах людзі ці то ня хочуць разумець, ці то сапраўды не разумеюць. „Так вы, ребята, к нам из Белорусии приехали?" — з ухмылкаю пытаецца абласны начальнік. — Как у вас в Белорусии погода?.." (...)*

*Маладзіца зь віцебскага аўтобуса прыслухоўваецца да тваёй беларускай мовы, і раптам ейны гожы твар перасмыквае, і яна зь нянавісьцю верашчыць: „Уйди, хохол бородатый! Тут белорусы по десять суток мучаются, а еще вас понаехало!" (...)*

Уладзімер Арлоў *(Наша Ніва, н-р 7)*
Арлоў — беларускі пісьменнік з барадою.

****************************************

## З мінулага тыдня

**Прэм'ер-міністры Польшчы — Ганна Сухоцкая і Літвы — Аляксандрас Абішала** падпісалі ў Варшаве дамову аб ахове і падтрымцы ўзаемных інвестыцый. Былі заключаны таксама міжнародныя пагадненні аб супольнай барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і аб супрацоўніцтве мытных службаў.

**Польшча становіцца адным вялікім базарам Сярэдняй Еўропы.** Нелегальны гандаль, кантрабанда нясуць з сабою многа клопатаў для польскіх улад. Расце колькасць мытных і крымінальных злачынстваў. У першым паўгоддзі г.г. па гэтых прычынах на мяжы затрымана 15 тысяч чалавек, калі ў аналагічным перыядзе мінулага года ўсяго 3620. Найбольш, бо 14 тысяч парушэнняў правапарадку зафіксавана на заходняй граніцы, дзе грамадзяне Румыніі (звыш 12 тысяч), Балгарыі і СНД (каля 1 тысячы) прабавалі нелегальна дастацца ў Нямеччыну.

**Міністр нацыянальнай адукацыі Здаіслаў Флісоўскі** на пленарным пасяджэнні Саюза польскіх настаўнікаў заявіў, што падставовае і сярэдняе школьніцтва ў далейшым будзе бясплатным. Міністэрства дапускае магчымасць частковай або поўнай аплаты за навуку ў ВНУ і на курсах удасканальвання кваліфікацый.

**У сталіцы Рэспублікі Беларусь — Менску** адбылося першае пасяджэнне палітычнай кансультацыйнай рады камуністаў краін СНД.

**Палякі** (у тым ліку пэўна і беларускі — грамадзянкі РП), якія масава наведваюць сталіцу Бельгіі — Брусель, стараюцца не ездзіць трамваем у багатыя кварталы горада. Прычына гэтаму такая, што на прыпынках чакаюць іх паліцэйскія мікрааўтобусы і праверка пашпартоў.

**Пачаліся ўжо заняткі ў вышэйшых навучальных установах.** У пяці ВНУ ў Беластоку штудзіруе 14 тысяч студэнтаў. Найбольш моладзі вучыцца ў Філіі Варшаўскага універсітэта — 7,5 тысячы, у тым ліку 5020 на стацыянары. Беластоцкі політэхнічны інстытут налічвае 4 тысячы студэнтаў, Медыцынская акадэмія — 2,4 тысячы. 76 чалавек вучыцца ў Філіі Тэатральнага інстытута імя А. Зельвяровіча і 162 — у Філіі Музычнай акадэміі імя Ф. Шапэна ў Варшаве.

**Страйкавалі працаўнікі гайнаўскага прадпрыемства „Furnel".** 1400 работнікаў дамагаюцца павышэння зарплат на 800 тысяч злотых у месяц і гарантыі з боку дырэкцыі, што да верасня 1993 г. ніводзін з працаўнікоў не будзе звольнены з работы (за выключэннем дысцыплінарных звальненняў).

**З 1 кастрычніка г.г. чарговы раз падаражэлі энерганосьбіты.** Аплата для індывідуальных спажыўцоў за электраэнергію і цёплую ваду ўзрасла ў сярэднім на 4,9 прац., а за газ — 4,7 прац. Цана электраэнергіі для прамысловасці павысілася на 3,9 прац.

**У пясчаным кар'еры Прадпрыемства будаўнічай керамікі ў Старым Ляўкове** знойдзена разгалінаваны рог невядомага сёння звяра і лапатападобныя рогі лася. Раней, у 1983 годзе, быў тут знойдзены ікол мамонта. Знаходкай зацікавіліся музейнікі-археолагі з Варшавы.

**Сумна закончылася вясельная бяседа ў ГСаўскім рэстаране ў Крынках,** у выніку якой 19 вясельнікаў пахварэла, а 17 з іх трэба было палажыць у бальніцу. Прычынай атручэнняў аказаўся... татарскі біфштэкс.

У будынках адной жыхаркі **Старога Корніна** паліцыя знайшла самагонную апаратуру і бочачку брагі. А ў **Барку**, што ў Гарадоцкай гміне, тры мужчыны з **Залук** папаліся ў рукі паліцыянтаў у час разліву 50 літраў гатовай самагонкі.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Каму добра жыць? — пытае Сакрат Яновіч.

* Памяці Юркі Луцкевіча.

* Каталіцкія місіянеры на Беларусі.

* Дзе прадаць бульбу?

* Як Максімюк стаў акцёрам.



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### СВЯТА СА СЛЯЗАМІ НА ВАЧАХ

На мінулым тыдні хрысціяне рэспублікі святкавалі 1000-годдзе полацкай епархіі і праваслаўнай царквы на Беларусі. З нагоды ўрачыстага юбілею ў Свята-Духавым кафедральным саборы прайшоў малебен. Адметна, што ў святкаванні 1000-годдзя праваслаўя на Беларусі ўпершыню за апошнія 70 год прынялі ўдзел кіраўнікі парламента і ўрада рэспублікі.

І яшчэ. На жаль, сёлетні юбілей Беларускае царквы быў азмрочаны трагічным выпадкам. У горадзе Жодзіна, што непадалёку ад Менска, невядомыя злачынцы спрабавалі забіць мясцовага святара айца Алексія Шынкевіча. Зараз айцец Алексій знаходзіцца ў шпіталі.

### А ВЫ, СЯБРЫ, ЯК НЕ СЯДАЙЦЕ...

Істотныя структурныя змены адбыліся днямі ў Беларускім парламенце. З мэтай больш эфектыўнай законатворчай дзейнасці тут утвораны Кансультацыйны савет — своеасаблівы парламент у парламенце.

Праўда, у склад „малога" савета ўвайшлі толькі дэпутаты, якія працуюць у парламенце на прафесійнай аснове. Таму наўрад ці нованароджанае фарміраванне палепшыць працу пракамуністычнага Вярхоўнага Савета Беларусі. Як казаў знакаміты расейскі байкапісец Крылоў: „А вы, сябры, як не сядайце, усё роўна лепш не зайграеце"...

### ЦАНА СЯБРОЎСТВА

Чарговае павышэнне расейскім урадам цаны на нафту зноў прымусіла беларускую эканоміку і яе генералаў стаць на калені перад „старэйшым братам". Па прагнозах спецыялістаў, ужо ў кастрычніку на Беларусі адбудзецца двухкратны скачок цэнаў бадай на ўсе прамысловыя і харчовыя тавары. Акрамя таго, на будучы год Расея абяцае паставіць нам толькі 11 мільёнаў тон нафты, што ў тры разы менш за неабходную колькасць.

Вось табе і сябры навек.

### КРАЙ АЗЁР, БАЛОТ, ЛЯСОЎ І ДЫЯМЕНТАЎ

На Беларусі знойдзены радовішчы... дыяментаў. Комплекснае вывучэнне глыбінных разломаў у Прыпяцкім і Полацкім раёнах пацвярджае, што беларускія дыяменты ідэнтычныя з сібірскімі.

Ведай нашых!

### МЫ АД ВАС АДДАЛЯЕМСЯ

На граніцы Беларусі з Літвой і Латвіяй з'явілася, нарэшце, беларуская памежная варта. Такім чынам Прыбалтыка стала для беларусаў сапраўдным замежжам. Хоць сцяны з калючага дроту ўздоўж граніцы пакуль яшчэ няма, „працэс пайшоў", як любіў казаць былы прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў.

### СЯБРЫ МАЕ, ЦУДОЎНЫ НАШ САЮЗ

Новая грамадска-патрыятычная арганізацыя з'явілася днямі ў рэспубліцы — Саюз афіцэраў Беларусі. Асноўнай мэтай Саюза будзе прававая і маральная абарона афіцэраў, выхаванне іх у духу патрыятызму. Дарэчы, членамі гэтага згуртавання могуць быць не толькі дзеючыя афіцэры, але і „адстаўнікі" і „рэзервісты".

### РУЙНАВАЦЬ — НЕ БУДАВАЦЬ

З пачатку будучага года Барысаўскі танкарамонтны завод пачне ліквідацыю танкаў і баявых машын пяхоты. За тры гады, згодна дагавору аб скарачэнні ўзброеных сілаў у Еўропе, на Барысаўскім заводзе будзе перараплаўлена на метал каля 2 тысяч састарэлых танкаў і больш тысячы іншай тэхнікі. І толькі невялічкая частка баявых машын будзе перароблена ў мірныя цягачы і бульдозеры.

### ВЯРТАННЕ УЛАДЗІСЛАВА ГАЛУБКА

Беларускі фонд культуры ўстанавіў іменную стыпендыю ў гонар першага народнага артыста рэспублікі, заснавальніка нацыянальнага тэатра Уладзіслава Галубка.

Першым лаўрэатам гэтай тысячарублёвай узнагароды стаў артыст Краснапольскага раённага Дома культуры Юрый Мотрычаў.

### СКАРЫНА НЕ ЗАБЫВАЕ БЕЛАРУСЬ

Прыемны падарунак атрымаў нядаўна з Канады беларускі навукова-асветніцкі цэнтр імя Скарыны. Нашчадак Вялікага першадрукара, прафесар Станіслаў Стэнлі-Скарына, падарыў нацыянальнаму цэнтру свае навуковыя працы, касеты і кружэлкі з запісамі сваёй музыкі.

Дарэчы, як адзначыў кіраўнік цэнтра Адам Мальдзіс, магчыма ў хуткім часе ў Беларусі будзе выдадзена адна з навукова-папулярных медыцынскіх кніг Скарыны-малодшага.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# У БЕЛЬСКАЙ ГАРАДСКОЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

Збудаваная ў палове васьмідзесятых гадоў, побач скрыжавання вуліц Ягелонскай /тады Пушкіна/ і Казімежоўскай, Гарадская бібліятэка - гэта найбольш сучасны аб'ект культурнага прызначэння ў Бельску-Падляшскім. Двухпавярховы будынак змяшчае ў сабе пазычальні кніг для дзяцей і дарослых, дзве чытальні, пакой казак, раздзявальню і сацыяльныя памяшканні. Прыкладны парадак, цішыня ды ветлівае абслугоўванне - таксама станоўчыя бакі апісанага мною свяцілішча культуры.

Гарадская бібліятэка налічвае /без філіяльнага пункта на вуліцы Стшальнічай/ прыблізна 60 тысяч тамоў. У 1991 годзе зарэгістраваных было звыш 4 тысяч чытачоў і каля 100 тысяч пазычаных кніг.

З інфармацыі складзенай у Гарадскую раду відаць, што бібліятэка арганізуе розныя формы культурна-асветнай працы, а менавіта: вечары паэзіі, літаратурна-музычныя сустрэчы, чытальніцкія і мастацкія конкурсы, дыскусіі, бібліятэчныя ўрокі, праекцыі казак і відэа-фільмаў для дзяцей. З нагоды важных гістарычных гадавін ды дзяржаўных святаў працаўнікі бібліятэкі рыхтуюць адмысловыя выставы кніг. З мэтай павышэння эстэтыкі залаў і калідораў выконваюцца шматлікія фотагазеткі, а таксама выставы літаратурнага або мастацкага характару.

На дзейнасць гэтай установы сёлета з бюджэту горада перададзена 857 мільёнаў злотых. Датацыя прызначаецца на зарплаты для працаўнікоў /18 чалавек/, бягучае ўтрыманне аб'ектаў, закуп кніжак, прэсы і неабходнага абсталявання. Каб здабыць дадатковыя сродкі, дырэктар бібліятэкі здаў частку памяшканняў прыватнай лякарні малых звяроў і пазычальні відэа-касет.

У пазычальні для дарослых ёсць невялікі збор беларускіх кніг - усіх разам звыш 300. Большасць гэта класіка мастацкай літаратуры. На жаль, каля 80 працэнтаў кніжнага фонду складаюць выданні з пяцідзесятых і шасцідзесятых гадоў. На працягу апошніх чатырох гадоў не прыбыла ніводная беларуская кніжка. Чытачы беларускай літаратуры ў Бельску яшчэ не звяліся - аб гэтым сведчаць зусім свежыя даты пазычанняў.

На паліцах чытач знойдзе таксама кніжкі членаў Літаратурнага аб'яднання "Белавежа". Іх тут каля 25, пры чым, па 4-5 экземпляраў першых томікаў паэзіі ды прозы "белавежцаў" старэйшага пакалення, сёння вядомых пісьменнікаў. Пералік гэты пачынае альманах "Рунь" /1959 год выдання/ і ... нечаканa спыняецца на зборніку вершаў Віктара Шведа "Дзяцінства прыстань" /1975 г./. Потым ужо толькі, як востраў сярод чыстага мора, паказваецца двухмоўны "Splot słoneczny" /"Сонечная вязь"/ Яна Чыквіна. Не абражаючы гонар нашых беларускіх дзеячоў, хачу адзначыць, што кнігі і помнікі матэрыяльнай культуры жывуць у народзе даўжэй за найбольш удалыя фэсты, конкурсы песні, з'езды, сустрэчы, семінары, выставы і іншыя мерапрыемствы падобнага тыпу. Трэба задумацца, перш-наперш "белавежцам", як на Беласточчыне папулярызаваць беларускую мастацкую літаратуру.

У чытальні бельскай бібліятэкі, паміма ўсеагульнага гаспадарчага крызісу, шмат яшчэ штодзённых газет і часопісаў. Аднак "Ніва" з пачаткам 1992 года апынулася "за бортам". Відаць не вытрымала яна канкурэнцыі з такімі папулярнымі выданнямі як "Skandale", "Detektyw Dolnośląski" ці "Kobra". На месцы, дзе раней пастаянна знаходзілася "Ніва" ў палове верасня стаялі "Sekrety Życia We Dwoje".

Нейкі час у першай палове гэтага года за доўгім цэнтральным сталом, на самай ніжняй паліцы ляжаў моцна пастарэлы "Przegląd Prawosławny". Чытачы напэўна ўжо дадумаліся: праваслаўны штомесячнік спаткаў той самы лёс, што "Ніву".

Яшчэ ніколі не бачыў я на паліцы двухмоўнага "Часопіса".

Сёння выданні для беларусаў у Польшчы фінансуе Міністэрства культуры і мастацтва ў Варшаве. Але ў бельскай Гарадской бібліятэцы няма ніводнага такога выдання. Варшава і Бельск-Падляшскі для нас - быццам два супрацьлеглыя полюсы. Холад бельскага "полюса" - гэта рэальныя ўмовы вялікай часткі тутэйша-беларускага бытавання і ціхай унутранай драмы.

**ЮРКА БАЕНА**

## ДНІ ХРЫСЦІЯНСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЗАБЛУДАВЕ...

... арганізаваныя ў днях 25—27 верасня 1992 г. уладамі ваяводства і гміны, праваслаўнымі і каталіцкімі святарамі, былі трэцяй імпрэзай гэтага тыпу ў гміне.

Урачыстае адкрыццё дзён адбылося ў царкве Успення Прасвятой Дзевы Марыі акафістам у памяць св. Мучаніка Гаўрыіла. У царкве была выстаўка іконаў з бельскай школы іканапісцаў, а спяваў маскоўскі хор „Славянскі лік".

26 верасня святкаванне хрысціянскай культуры канцэнтравалася вакол касцёла св.св. апосталаў Пятра і Паўла.

На працягу 3 дзён жыхары Заблудава і гміны маглі пабачыць некалькі выстаў прац беластоцкіх мастакоў, фатаграфікаў і скульптараў, прысвечаных рэлігійным матывам, паслухаць паэзію і музыку.

Была нагода пабачыць некалькі фільмаў, зробленых на аснове Старога і Новага Запавету. Паглядзець фільмы і паслухаць рэлігійныя песні маглі таксама жыхары Рыбалаў, Фальваркаў і Крыніцкіх.

На жаль, нават прысутнасць у гэтым святкаванні варшаўскіх, маскоўскіх і беластоцкіх артыстаў ды спрыяльнае надвор'е не выклікалі натоўпу гледачоў. Магчыма, што праграма была зашмат багатая для невялікай, у сапраўднасці, грамадскасці.

**М.**

********************************************************************************

## БАЗАР ЯДНАЕ НАРОДЫ

Усім вядома, што людзі за грошы могуць люта пасварыцца, а нават пазабівацца. Але аказваецца, што і бывае наадварот, грошы могуць спалучаць людзей. Мала што паасобных людзей, нават цэлыя народы. Такое ўражанне можна мець, прайшоўшыся па нашых базарах.

Іду я, для прыкладу, па рынку ў Бельску, і чую ад аднаго століка:

— Цо пану патшэба? Купіце венік. — Я нічога не адказваю і прыслухоўваюся да дыялога, які вядуць два мужчыны ля іншага століка:

— Сколько вы за это дали?

— Osiemdziesiąt tysięcy.

— Ну і дурак!

— Kto tu jest durniem, ja?!

— Нет, тот кто вам за такие деньги эту вещь продал.

— Znaczy się, zrobiłem dobry zakup? — упэўніваецца чалавек.

Працягу іхняга дыялога я ўжо не чуў, бо звярнула маю ўвагу жанчына, якая за суседнім столікам таргавалася за дзіцячую цацку — ваенны караблік. Калі збіла цану з 25-ці тысяч на 15, запытала:

— А вуон стрыляе сіэтымі ракетамі?

— Ну ещё чего! — абурыўся прадавец, — за 15 тысяч вы хотите чтобы ракетами стрелял?

І ўсе ўсіх разумеюць. Паспрачаюцца крыху часамі за цану таго ці іншага тавару, але робяць гэта больш для прыемнасці (так сказаць, дзеля прынцыпу), чымсьці ад сапраўднай патрэбы.

Базар вучыць талерантнасці.

**ак**

## ЗНОЎ АБАКРАЛІ ЦАРКВУ

Раніцай у нядзелю 20 верасня 1992 г. людзі, якія ішлі паўз ласінскія могілкі да кароў, заўважылі прыадчыненыя дзверы ў алтарнай частцы царквы св. Юрыя. Гэтая царква стаіць збоч вёскі, служыцца тут усяго тры разы ў год: на Юрыя, у Праведны панядзелак і на Галавасека. Нічога дзіўнага, што зладзеі маглі залезці ў сярэдзіну, нікім не заўважаныя. Тым больш, што не было тут адпаведнага забеспячэння. Зладзеі выламалі драўляную засаўку. Аказваецца, можна было гэта зрабіць ударыўшы некалькі разоў мацней у дзверцы.

Злачынцы ўкралі 6 іконаў, раней выразаўшы іх з рамкаў. Гэта: „Тайная вячэра", „Святы Мікола Цудатворац" і „Хрыстос Збавіцель" з алтарнай часткі ды „Іаан Багаслоў", „Ісус Хрыстос", і „Божая Маці з Дзіцяткам". Настаяцель ласінскага прыхода а. Леўкій Ярацэвіч кажа, што іконы паходзяць з пачатку XVII стагоддзя. Самая старажытная была апошняя з іх, на якой за спіной Божай Маці намаляваны быў крыж. Яна можа нават з канца XVI стагоддзя.

Апрача іконаў прапаў яшчэ масянжовы трэбны крыж. Цяжка сказаць, на колькі ацаніць гэтыя страты. Ніхто ніколі ў царкве не вызначыў прыблізную вартасць іконаў. Аднак, мяркуючы ўжо па часе іх напісання, вартасць павінна быць немалая. Зладзеі могуць мець клопат з продажам гэтых іконаў, бо мытныя службы маюць ужо пра іх іфармацыю. А наўрад ці ў Польшчы знойдзецца на іх калекцыянер.

Але такімі разважаннямі, відаць, зладзеі сабе галаву не тлумяць, бо раз-пораз абкрадаюць храмы.

**М.В.**

*Фота М. Ваўранюка*



## БЕЛАСТОЧЧЫНА...

*Працяг са стар. 1*

адукацыі тэкстыльшчык. Пасля апошняй сусветнай вайны выступаў ён у тэатрах Лодзі і Варшавы. Прымаў таксама ўдзел у эстрадных праграмах і радыёпастаноўках. Як песеннік выязджаў ён за граніцу. Памёр у 1964 г. у Варшаве.

У Гайнаўцы нарадзіўся ў 1933 г. кінаапаратар Кшыштаф Віневіч. У гадах 1973—83 быў ён намеснікам старшыні Таварыства польскіх фільмоўцаў, а таксама выкладчыкам у лодзінскай і катавіцкай школах. Памёр у 1986 г.

Белавежа ганарыцца ў сваю чаргу рэжысёрам мультыплікацыйных фільмаў Пётрам Шпаковічам (1928—1981), які загінуў у аўтамабільнай аварыі на „павароце смерці" ля гары Баторыя ў Белавежскай пушчы. Пахаваны ён у сваёй роднай мясцовасці.

З Заблудава выводзіцца рэжысёр дакументальных фільмаў Эдмунд Збігнеў Шаняўскі (нар. 1924). З 1964 г. звязаны ён з Кінамайстэрняй „Czołówka" і здымае галоўным чынам фільмы для войска.

Як таленавіты кінаапаратар несумненна прыдае бляску сваім родным Бялевічам Ежы Госцік (нар. 1934). Выканаў ён здымкі для звыш 150 дакументальных і звыш дзесяці мастацкіх фільмаў. Атрымаў ён некалькі дзесяткаў узнагарод і дыпломаў на краёвых і міжнародных фестывалях. Такі самы бляск кладзецца на Нараўку за прычынай рэжысёра Тамары Саланевіч, якую крытыкі залічваюць да авангарду краёвых кінадакументалістаў. Мы яе ведаем перш за ўсё як песняра адыходзячай беларускай беластоцкай вёскі.

**ПЁТР БАЙКО**

**НА мяжы**

**ЧАСТКА XIII**

# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

З размоў з беларускімі сялянамі аднaзначна вынікае, што ідэя капіталізму ў Польшчы выразна ім не адпавядае, а нават іх палохае. Не пераконвае іх зусім магчымасць вольнай гаспадарчай ініцыятывы і поўная свабода ў выбары форм палітычнай дзейнасці. Цікава, што амаль не сустракаўся я нават з мінімальным водгукам, калі пачынаў гаварыць аб новых магчымасцях ў галіне беларускай нацыянальнай дзейнасці. Заўважалася пэўная розніца ў падыходзе да крануты вышэй спраў у залежнасці ад таго, з якім, маладым ці пажылым чалавекам, праводзіў я размову. Аднак розніца гэта вялікая і па сутнасці заўсёды зводзілася яна да таго, што маладыя хваляць тую змену нашага жыцця, якая дазваляе людзям бесперашкодна выязджаць у заходнія краіны.

Рашучая большасць размоўцаў не верыць у поўную палітычную свабоду ў нашай краіне. Праяўляецца гэта ў тым, што амаль усе з кім я гаварыў, заяўлялі: „Калі хочаш, каб я з табою гаварыў шчыра, то дай слова, што не падасі майго назвіска і вёскі, з якое паходжу". На пытанне, чаму баяцца публікаваць сваё прозвішча, адказвалі: „А чорт яго знае, што яшчэ можа быць. Ты таксамо будзь асцярожны. Ні думай, што да цябе не прыглядаюцца і не падслухуюць. У гэтай усёй катавасіі, то яшчэ можа быці чорт знае што. Ты прыглядзься да Сейму. Адзін другого ў ложцы вады ўтапіў бы.

А што гаварыць пра нас, звычайных людзей. Добрэ то добрэ, а як кепско то кепско. Чы ты ні ведаеш, што з намі рабілі пасля вайны. У лоб і ў яму, бо ты кацап. Усе яшчэ можа вернуцца".

Ідэя вольнай гаспадарчай ініцыятывы не сустракаецца наогул з падтрымкай і адабрэннем. Размоўцы лічаць, што такога тыпу ініцыятывы даступны толькі прайдохам, хітрацам, жулікам, а не нармальным людзям. Саракапяцігадовы добры гаспадар рэагуе на маё выказванне аднaзначна адмоўна:„Вольная гаспадарчая ініцыятыва? Аб чым вы гаворыце. Дзе яна? Гэто адзін смех. У нас больш як паўроку не плацілі за молоко, каторэ мы дастарчылі ў млечарню ў ліпцу 1991 року. Дзе мы толькі аб гэтым не гаварылі, усё дарэмна. Калісь то ў такой сітуацыі людзі ехалі ў ваяводскі камітэт і гаворат, што памагало. А куды паедзеш цяпер? Адзін смех. Якія ініцыятывы? Кулка закрывают, млечарні закрывают, асяродкі здароўя — закрывают. Кажды дзень новы цэны ў склепах. А для жулікаў то добры час пришоў. Як могут, так ашукоўвают. Мой сусед прадаваў жарэбчыка. Прыехаў такі шпекулянцік ценжароўкаю, бажыўся, кляўся, што больш жаробчык няварты як шэсць мільёнаў і сусед ужэ хацеў аддаць. Але навінуўся добры знаёмы і парадзіў, каб не аддаваў. І што вы думаеце. У цёнгу тыдня прыязджае яшчэ трох шпекулянтаў і ў канцы чацверты даў дзевяць мільёнаў. Што гэта значыць? А тое, што гэты астатні таксама зарабіў. Можэ мільён, можэ два чы тры. А значыцца, той першы, што даваў шэсць мільёнаў, хацеў зарабіць штэры або пяць мільёнаў. О, бачыце, што робіцца. І што, куды ты пойдзеш з скаргаю — у гміну, у паліцыю? Так, з табою ніхто гаварыць не будзе. Адным словам для жулія прыйшоў залаты час, а для чэснаго чалавека — бяда. Божэ мой, аб чым мы говорым, якія там вольныя ініцыятывы. Арэш, сееш, гадуеш, б'еш рукамі аб лёд, а які толк, ніякого. О, яшчэ цяпер прыціснут з наукаю і з лечэннем, трэба будзе плаціць і будзе поўны клёпс. Мужыцкія дзеці, так як перад вайною, будут седзеці па вёсках. Калісьці, калі мужык хацеў зарабіць, то мог сеяць траву на насенне, лубін на пасенне, сеяць лён або сеяць вікліну. Кантрактавалі і добрэ плацілі. Цяпер пасей. Нікому нічого не трэбо. Адным словам скончыласё бабцы сране. От вам і свабодныя ініцыятывы!"

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

***

# БАЛАХОВІЧ

*/пачатак у 37 н-ры/*

### ВОСІП ВОСІПАВІЧ ПІЛСУДСКІ

Вынікам польскага контрнаступлення быў поўны разгром Чырвонай арміі на беларускім напрамку. Польскае войска магло свабодна дайсці ажно да Масквы. Тым часам польскі ўрад пачаў задумоўвацца, дзе спыніць свой паход. Армія атрымала загад спыніцца на лініі Пінск-Дзвінск. Атрады, якія ўвайшлі ўжо ў Менск, мусілі вярнуцца.

Справа заключалася ў тым, што польскія нацыяналісты, якія пераважалі ў Сейме і ва ўрадзе, рашылі заняць усяго столькі беларускіх зямель, колькі змаглі б хутка паланізаваць. Маўляў, глынем столькі, колькі зможам пераправіць. Падчас мірных перамоваў у Рызе польская дэлегацыя рэзка адмовілася ад савецкай прапановы, каб палякі, на добры пачатак, узялі сабе ўсё да мяжы з 1772 года, перад першым падзелам Рэчыпаспалітай. Падобны быў падыход польскіх нацыяналістаў да Віленшчыны. У выніку намаганняў заходніх саюзнікаў адмовіліся яны ад Вільні. Для карэнных палякаў і Вільня, і Менск былі нічога не вартымі "жыдоўскімі" мястэчкамі, размешчанымі недзе далёка на ўсходзе.

Зусім інакш глядзеў на гэтыя гарады Восіп Пілсудскі. Для яго Вільня і Менск былі самымі важнымі гарадамі ягонага ўлюбёнага Вялікага княства Літоўскага. Далейшых падзеяў у змаганні за Беларусь не зразумеем без усведамлення сабе таго, што Начальнік польскай дзяржавы не быў палякам, а прынамсі не такім палякам, як паслы Грабскі і Домбскі, якія дзялілiся Беларуссю з Савецкай Расіяй.

Пілсудскі быў палякам толькі ў разуменні "грамадзянін Рэчыпаспалітай Абедзвюх нацый". Быў таксама "літвіном" як грамадзянін былога Вялікага княства Літоўскага. Але хаця ў пачатках роду Пілсудскіх стаіць нейкі жмудзін Гінэт, па нацыянальнасці Пілсудскі быў беларусам. Выразна шыла тут праўдападобна тое, што ўладанні Пілсудскіх у падвіленскім Зулове былі беларускімі. Малы Зюк /скарочаная форма беларускага імя Юзюк/ ведаў беларускую мову, якая магчыма, як і ў іншых вялікіх родах на Беларусі, была ў ягонай сям'і мовай інтымнай. Малады Пілсудскі, пішучы па-польску, не называе свайго бацькі "ojciec", толькі па беларуску "бацька". Здаўна было вядома, што Пілсудскі асабіста кіраваў кантрабандай "Беларускай дудкі" Багушэвіча з Кракава на Беларусь, і што ягоны ППС яшчэ з часоў Ліманоўскага прызнаваў існаванне беларускай нацыі, хаця беларускага палітычнага руху тады яшчэ не было. Але толькі ад некалькіх месяцаў ведаем што маладзенькі Пілсудскі пасля першага арышту пра сваю нацыянальнасць заявіў: беларуская. Таксама тады ён назваў сваё імя як Восіп, таму не можам больш пра яго пісаць Юзаф або Язэп. Восіп дык Восіп.

Беларускасць Пілсудскага была ўсё-ткі нераздзельнай з пачуццём прыналежнасці да шырэйшай супольнасці: літоўскай, і яшчэ шырэйшай - польскай. Таму ніколі не пагадзіўся ён з беларускім рухам, які сваёй мэтай лічыў Беларусь без Польшчы. Праграма Беларускай сацыялістычнай грамады паўтарала праграму ППС, толькі з адным адрозненнем: грамадоўцы вырашылі змагацца за аўтаномію Беларусі ў рамках Расійскай імперыі, а не аднаўленай Рэчыпаспалітай. Тут шляхі беларусаў і "таксама беларусаў", такіх як Пілсудскі, разышліся. Тым часам у 1919 годзе справа адраджэння колішняй Рэчыпаспалітай, якая магла раней здавацца толькі рамантычнай мрояй, стала зусім рэальнай. Аднак аказалася, што не хочуць гэтага не столькі беларусы, колькі ўсе палякі. Калі да Пілсудскага дайшлі чуткі, што Грабскі і Домбскі гандлююць Беларуссю з бальшавікамі, паслаў князя Сапегу, каб разагнаў усю кампанію. Даведаўшыся пра місію князя, польская дэлегацыя ноччу падпісала перамір'е з Савецкай Расіяй. "Wyciąłem miński wrzód" - хваліўся потым Грабскі. У полі астаўся самотны Пілсудскі, якому змарнавалі намаганні ўсяго жыцця, і тады вырашыў выдаць апошні бой. Хаця быў Начальнікам польскай дзяржавы, не быў ён жа самаўладным дыктатарам, ды не мог супраць волі Сейма і ўраду падняць польскую армію. Заставаліся толькі "свае хлопцы": камандзір гэтак званай Літоўска-беларускай дывізіі ген. Лукіян Жалігоўскі і камандзір Беларускай народнай арміі ген. Станіслаў

*Працяг на стар. 8*

### ІРАЦЫЯНАЛІЗМ

Вельмі часта пішам пра сябе як аб вечна пакрыўджаных гісторыяй і ўсялякімі чужымі злымі духамі. Віна амаль заўсёды знаходзіцца на баку іншых, але мы самі ніколі не вінаватыя. Акружаюць нас самыя злачынцы, крывадушнікі і здраднікі. У такім тлумачэнні, нейкія чужыя вінаватыя ў тым, што амаль знікла наша мова і памірае культура. Выглядае на тое, што Бог стварыў беларускі народ, каб ён толькі цярпеў і выбачаў сваім крыўдзіцелям. Мы аказаліся на свой спосаб новым "выбраным народам", якому проста вызначаныя дарогі ў рай.

Калі слухаць ці чытаць выказванні усялякіх нашых шызафрэнікаў ціснецца простае пытанне: адкуль бяруцца такія высновы, чаму мы толькі гаворым, гаворым, наракаем і наракаем, а так мала робім, каб змяніць свой лёс? Усё так, як у тым анекдоце з Ванькам, які безупынна маліўся, каб Бог саслаў яму выйгрыш у нейкай латарэі і калісь пачуў голас з неба: "Ваня, дай мне прынамсі шанц дапамагчы табе і купі сабе латарэйны білет".

Вялікія цывілізацыі і багацтвы пачыналіся з таго, што хтосьці ўпершыню арганізаваў працу і прымусіў іншых выканаць яе. Прымусіць можна было па-рознаму - зняволеннем або эканамічным шантажом. У канцы нашага стагоддзя паўсюдна вядома, што толькі эканамічныя фактары канчаткова рашаюць аб прадуктыўнасці чалавечай дзейнасці. Пасля той, хто арганізаваў працу, рашаў пра яе эфекты.

У нашым кутку свету ёсць наадварот. Упершыню доўга гавораць, паўтараючы найчасцей: "нам трэба", "мы мусім", "мы павінны". Ужо ўсім вядома, што трэба і ўсе перакана્ныя, што "мусім", толькі ніхто не рвецца да працы. Яшчэ і ніхто пальцам не дакрануўся, а ўсе ўжо гавораць пра свае заслугі, пачынаюць дзяліць прыбытак, якога няма і не вядома, ці будзе. Тут і пачынаецца сварка, ці так сапраўды патрэбна гэтая праца або дзейнасць, пра якую так доўга гаварылі. Адзін другога пачынае падазраваць і ўсе з усімі пачынаюць змагацца, але найгоршае ва ўсім гэтым тое, што ніхто не ведае за што ідзе гэтая барацьба, бо не за прыбытак, якога нават не сталі выпрацоўваць.

Разумныя грамадствы маюць амаль закадаваную схільнасц [illegible] амагаць сваім членам і не пытаюць, што ўзамен за гэтую дапамогу атрымаюць. Так як у прыродзе, дзе кожны гатунак стараецца падтрымаць сваё існаванне, каб не заглушылі яго або не знішчылі іншыя. Адвечны інстынкт самазахавання паказвае нават неразумным істотам, як захавацца ў свеце канкурэнцыі за гэтае існаванне.

У нас і тут ёсць інакш. Наш, нават адукаваны, мужык не можа сцярпець, калі яго сябра, сваяк ці знаёмы стаў крыху багацейшым, дабіўся нечага ў навуковай ці творчай працы, здабыў нейкі аўтарытэт. Ірацыянальнае пачуццё зайздрасці адразу падказвае, што такі поспех - гэта вынік нейкіх злачынных дзеянняў. І пачынаецца з шалёнай хуткасцю круціцца махіна кампраметавання таго, хто асмеліўся вырвацца з гэтага "свайго", трохі затхлага, свету. А як прыемна, калі ўдасца камусьці кінуць калоду пад ногі. Кругом радасць, на душы робіцца неяк лёгка і прыемна. Проста, варта выпіць з такой нагоды.

Толькі ці не "раздзяўбуць нас крумкачы і вароны"!

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

### ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

**Дарагая рэдакцыя „Нівы", Паважаны Галоўны рэдактар Я. Міранoвіч!**

Пастанавіў я пісаць да Вас часцей. Назбіралася многа спраў і думак, з якімі хацеў бы з Вамі падзяліцца. У наступным лісце прышлю свае заўвагі на тэму зместу „Нівы", а таксама заўвагі ў адрас БГКТ, БДА, БАС і радыёперадач на беларускай мове. Хвалявала і нервавала мяне многае, але не пісаў, бо не верыў, што надрукуеце мае допісы і возьмеце іх пад увагу, а проста выкінеце ў смецце. Хаця Вас, Галоўны рэдактар, не ведаю, але чамусьці веру, што цяпер у „Ніве" многа зменіцца на лепшае.

З павагай **У. ЦІЛЮЛЬКА**

**Ад рэдактара:** З прыемнасцю будзем вітаць Вас на старонках „Нівы" так, як і іншых карэспандэнтаў, якія захочуць выказаць свае думкі або меркаванні. Кожны ліст ад Вас, дарагія чытачы, уважліва аналізуем, а Вашыя заўвагі нямала дапамагаюць нам у рэдагаванні нашага тыднёвіка.

**Я. МІРАНОВІЧ**

# ГІСТОРЫЯ СЯМЯЦІЦКАГА ПРАВАСЛАЎНАГА ПРЫХОДА

Гісторыя праваслаўя паўднёвай часткі сучаснага Беластоцкага ваяводства сягае перыяду ранняга сярэднявякоўя. Гістарычныя заметкі пацвярджаюць існаванне ў палове XIII ст. царквы ў Бельску-Падляшскім, Бранску, Драгічыне, Мельніку і Суражы.

Першыя ўпамінанні аб існаванні ў Сямяцічах праваслаўнай царквы паходзяць з першай палавіны XV ст. 1431 годам датуецца дакумент, у якім гаворыцца аб ахвяраваннях, дадзеных царкве ў Сямяцічах тагачасным уладальнікам горада Алехнам Кмітам Судымонтавічам. І калі аўтэнтычнасць гэтага дакумента аспрэчваецца многімі даследчыкамі, то сам факт існавання ў той час царквы ў Сямяцічах не будзіць ніякіх сумненняў.

У 1456 г. чарговы ўладальнік Сямяціч, Міхал Кміта, сын Алехны, адрамантаваў царкоўны будынак і падарыў прыходу дадатковыя ворныя землі і сенажаці, якія ляжаць ва ўрочышчы Грычоўка і называюцца Мышкава, а яго дачка Аляксандра, па мужу Тэнчыньска, у 1513 г. пацвердзіла правы на папярэднія ахвяраванні. З яе запісу даведваемся таксама, што ў горадзе існавала ў той час капліца св. Анны. Можна меркаваць, што стаяла яна на месцы сучаснай могільнікавай капліцы. Горад Сямяцічы пераходзіць потым на ўласнасць Тэнчыньскіх, а затым набывае іх у 1527 г. пісар літоўскі і казначэй Вялікага княства Літоўскага Богуш Багавітын. Пасля яго смерці горад яшчэ няраз змяняў сваіх уладальнікаў. Дадзеныя з 1592 г. пацвярджаюць існаванне ў Сямяцічах праваслаўнага прыхода. Яго свяшчэннік уладаў 1,5 валокамі і вёскай Цацэлі.

У канцы XVI ст. Сямяцічы сталі ўласнасцю магнацкага роду Сапегаў. Сапегі акружылі сямяціцкую царкву дбайнай апекай. Леў Сапега, канцлер Вялікага княства Літоўскага, у 1605 г. дае царкве далейшыя прывілеі і ахвяраванні.

Пасля правядзення ў 1596 г. Брэсцкім і Уладзімірайўскім епіскапам Іпацiем Пацеем уніі праваслаўнай царквы з дзяржаўнай у Польшчы рымска-каталіцкай царквою, сямяціцкая царква становіцца уніяцкай. Яна ж належыць да епархіі, якой кіруе епіскап Пацей, а яе апякун, Леў Сапега, таксама з'яўляецца прыхільнікам уніі. Фармальнае прыняццё уніі наступае аднак толькі ў 1614 г., калі "prezentę" атрымаў свяшчэннік Епеферы Кэнтжыньскі, рэкамендаваны на гэтую пасаду чарговым епіскапам Брэсцка-уладзімірайўскай епархіі Анастасіем Сакольскім. Захавалася "prezenta" ад 11 снежня 1627 г., дадзеная чарговаму свяшчэнніку Аляксандру Аладоўскаму, пры ўмове, што унія будзе захавана.

26 лютага 1631 г. святар Аляксандр Аладоўскі атрымаў каралеўскую грамату на пажыццёвае карыстанне зямельным надзелам у вёсцы Рагаўка, якая па смерці папярэдняга свяшчэнніка Тваpoўскага з'яўляецца каралеўшчынай. Новы свяшчэннік быў зводьнены ад усялякіх павіннасцей за надзеленыя валокі, абавязаны быў толькі адпраўляць набажэнствы за сваіх ахвяравальнікаў.

Пад канец XVIII ст. царква ў Сямяцічах усё больш і больш станавілася падобнай на рымска-каталіцкі касцёл. У набажэнствы пачалі ўводзіць лацінскую мову. На шчасце, прыхаджанам удалося ўтрымаць іканастас з райскімі варотамі, што дазволіла царкве захаваць свой першапачатковы выгляд. Галоўны алтар у царкве св. Тройцы, і таму ў гэты дзень збіралася тут многа пілігрымаў. На Тройцу адбываўся ў горадзе таксама кірмаш. Пасля асвячэння ў 1638 г. новапабудаванага рымска-каталіцкага касцёла, галоўныя фэставыя ўрачыстасці перанесліся туды. У царкве ж прыхадскі уніяцкі свяшчэннік адпраўляў набажэнства толькі зранку, бо пазней быў абавязаны прымаць удзел ва ўрачыстасцях касцельных. І таму з цягам часу традыцыя фэсту св. Тройцы ў царкве занікае, а ў рымска-каталіцкім касцёле наадварот, становіцца фэстам. Парафіяльнымі святамі царквы пачынаюць быць святы апосталаў Пятра і Паўла і св. Параскевы.

У 1733 г. чарговы ўладальнік Сямяціч Міхал Сапега абавязаўся на працягу двух гадоў на месцы маленькай і знішчанай ужо царквы пабудаваць новую. Гэтага абяцання ніколі не стрымаў ні ён, ні яго наследнікі Казімір Кароль, Міхал Юзэф і Ежы Феліцыян Сапегі. У 1763 г., ужо ў час уладальніцы Анны Ябланоўскай, дачкі Казіміра Сапегі, уніяцкім свяшчэннікам у Сямяцічах становіцца Мікалай Духноўскі. У 1789 г. уніяцкі прыход у Сямяцічах налічвае 2511 прыхаджан, з якіх 458 жыло ў Сямяцічах, а ўсе іншыя ў 16 навакольных вёсках. У час уладанняў Анны Ябланоўскай наступае далейшае развіццё горада. Аднак перыяд гэты не аставіў слядоў клопату пра царкву. Не быў пабудаваны новы храм, а стары, як паказала інспекцыя, праведзеная ў 1774 г. айцом Антоніем Карчэўскім, патрабаваў капітальнага рамонту.

Пасля III падзелу Польшчы Сямяцічы апынуліся ў межах Прусіі. Брэсцкая уніяцкая епархія была раздзелена руска-прускай дзяржаўнай граніцай. Прускія ўлады стварылі новую уніяцкую епархію з сядзібай у Супраслі. У складзе гэтай епархіі Сямяціцкі прыход аставаўся аж да 1809 г. У выніку пастаноў, прынятых у 1807 г. у Тыльзіце, Сямяцічы адышлі да Расіі. Імператарскім дэкрэтам ад 1809 г. Супрасльская епархія была ліквідавана, а цэрквы, якія ўваходзілі ў яе склад, зноў былі далучаны да Брэсцкай епархіі.

З уступленнем на царскі трон Мікалая I, пачалася падрыхтоўка да ліквідацыі уніі. Рускі ўрад рабіў гэта не адразу, а паволі, замяняючы паступова адзін за другім уніяцкія абрады з каталіцкіх на праваслаўныя. Працэс гэты быў прыспешаны з хвілінай назначэння брэсцкім епіскапам Язэпа Сямашкі. Афіцыяльнае далучэнне уніятаў да праваслаўя адбылося ў 1839 г.

У 1842 г. на праваслаўным прыходзе ў Сямяцічах былі свяшчэннік, дыякан і псаломшчык. Згодна з пастановай, выдадзенай у 1846 г., духавенства ўтрымоўвалася са сродкаў, прыдзеленых апекуном. Царкоўную зямлю апрацоўвалі прыгонныя сяляне з вёскі Баратынец-Рускі, дровы атрымоўвалі з дзяржаўнага лесу. У 1851 г. праваслаўны прыход у Сямяцічах налічваў 2782 прыхаджан, з якіх 366 жылі ў Сямяцічах, а іншыя ў 26 навакольных вёсках.

У 1861 г. праваслаўны прыход налічваў 2846 прыхаджан.

Паўстанне 1863 г. ахапіла сваім абсягам і Сямяцічы. Адбылася тут адна з найбольшых бітваў паўстання. У час бою знішчаны быў цэнны архітэктурны помнік-палац Анны Ябланоўскай і частка горада. З гістарычных крыніц даведваемся таксама аб клопатах тагачаснага сямяціцкага праваслаўнага свяшчэнніка Ляцэвіча. Гэты свяшчэннік, хаця і не даносіў царскім уладам аб чытанні яго парафіянамі забароненай літаратуры, быў арыштаваны паўстанчым атрадам і толькі дзякуючы добрай характарыстыцы, дадзенай яму каталіцкім свяшчэннікам ксяндзом Рохам Багушэўскім, не быў пакараны смерцю.

Тым часам стан царкоўнага будынка ў 60-ыя гады XIX ст. значна пагоршыўся. Існавала небяспека, што ён заваліцца. Таму прынята было рашэнне будаваць новую царкву. Абрад пасвячэння краевугольнага каменя пад новы мураваны храм адбыўся 29 красавіка 1865 г. А ўжо ў 1866 г. пабудова была закончана і 6 лістапада адбылося пасвячэнне царквы. Зноў атрымала яна назву святых Пятра і Паўла, а таксама святой Параскевы.

*/працяг будзе/*

**Р.С. і М.С.**

**************************************************************************************************************************

# З'ЕЗД МОЛАДЗІ БЕЛАСТОЦКА-ГДАНЬСКАЙ ЕПАРХІІ

20 верасня г.г. ў прыходзе св. Духа ў Беластоку адбыўся VII З'езд моладзі Беластоцка-гданьскай епархіі. Прыняло ў ім удзел звыш ста прадстаўнікоў маладога пакалення з 16 прыходаў, а таксама, упершыню, дванаццаціасабовая група маладых з Гродзенска-ваўкавыскай епархіі з Беларусі са сваім духоўным апекуном айцом Уладзімірам Кішкуном з Гродна.

Сустрэча пачалася з Літургіі, якую адправіў архіепіскап Сава ў саслужэнні духавенства з розных прыходаў епархіі. У пропаведзі уладыка Сава спаслаўся, між іншым, на словы "бо шмат пакліканых, ды мала выбраных" /Матф. 22, 14/, якімі канчалася Евангелле на гэтую нядзелю, а ў якой знаходзіцца прытча Хрыста аб Царстве Нябесным на прыкладзе цара, які клікаў на вяселле свайго сына. Звяртаючыся да моладзі архірэй сказаў, каб памяталі, што яны таксама **пакліканыя** і так павінны дзейнічаць і так сябе паводзіць, каб стацца гэтымі **выбранымі**.

Пасля хрэснага ходу, супольнага здымка і абеду пачалася афіцыйная частка З'езда. Да моладзі прамовіў архіепіскап Сава, які засяродзіўся на наступных пытаннях:

- людзі, а таксама і моладзь, гэта інструмент у руках Бога, і калі чалавек паддаецца волі Божай, тады сапраўды можа зрабіць нешта для збаўлення сябе і іншых,

- галоўнай мэтай Царквы з'яўляецца пабудова і распаўсюджванне Царства Нябеснага на зямлі,

- будучыня нашай Царквы залежыць ад таго, якая будзе моладзь.

На гэтых тэзісах павінна абапірацца дзейнасць епархіяльнага Маладзёжнага брацтва і ўсёй праваслаўнай моладзі ў Польшчы.

У далейшым голас узялі: а. Уладзімір з Гродна, благачынны а. Серафім Жалезняковіч, настаяцель прыхода св. Духа ў Беластоку а. Юрый Барэчка, а. Аляксандр Янкоўскі з Сан-Францыска і духоўны апекун епархіяльнага Брацтва а. Мікалай Баравік.

Айцец Уладзімір з Гродна сказаў, што пабыўку на Беласточчыне і пераняссенне мошчаў св. Мучаніка Гаўрыіла - заступніка дзяцей і моладзі, успрымае як паказанне кірунку, адкуль павінны браць яны ўзоры для дзейнасці сваёй моладзі.

У чарговым пункце З'езда старшыня Андрэй Неміровіч зачытаў справаздачу з працы Праўлення і 26 гурткоў, якія існуюць у 23 прыходах.

У дыскусіі, у якой прымалі ўдзел моладзь і святары, закраналіся наступныя праблемы:

- прадстаўніцтва моладзі на Памесным саборы нашай Царквы,

- дзейнасць у прыходах па-за Беластокам,

- інфармаванне і прыцягванне да дзейнасці Брацтва моладзі з сярэдніх школ пры дапамозе настаўнікаў Божага закону,

- справа мовы ў час набажэнстваў. Частка ўдзельнікаў З'езда выказвалася за ўвядзеннем польскай мовы, зразумелай для большасці вернікаў. Здаецца, што гэтае пытанне незадоўга стане адным з важнейшых у нашай Царкве.

Пасля дыскусіі пачаліся выбары старшыні Епархіяльнай маладзёжнай рады і яе Праўлення. Новым старшынёю, які ўзначаліў чатырнаццаціасабовае Праўленне, быў выбраны Марк Масальскі з Беластока /дагэтуль быў ён намеснікам старшыні/.

А вось кароткія выказванні абодвух старшыняў:

**Андрэй Неміровіч** /былы старшыня/:

- Думаю, што ўдалося нам стварыць зусім някепскую матэрыяльную базу для далейшай дзейнасці Брацтва ў выніку розных статутных пачынанняў. Самая цяжкая праблема ў апошнім часе гэта спад актыўнасці моладзі і недахоп людзей, якія ўзяліся б за канкрэтныя заданні і справы. Мабыць на такую сітуацыю вялікі ўплыў мае цяжкая эканамічная абстаноўка ў краіне.

**Марк Масальскі** /нававыбраны старшыня/:

- У сваёй дзейнасці пастараюся больш часу прысвяціць духоўным справам, якія з'яўляюцца асновай дзейнасці Брацтва. Трэба будзе таксама пашырыць і інтэнсіфікаваць кантакты Праўлення з гурткамі Брацтва ў тэрыторыі. Гэтая форма кантактаў можа давесці да развіцця дзейнасці моладзі ў прыходах па-за Беластокам.

Вечарам у прыходзе ў Фастах моладзь сабралася на акафісце Прасвятой Багародзіцы. VII З'езд моладзі Беластоцка-гданьскай епархіі закончыўся вогнішчам, пры якім гучалі народныя песні.

Трэба спадзявацца, што нававыбранае Праўленне прычыніцца да далейшага развіцця дзейнасці праваслаўнай моладзі ў Беластоцка-гданьскай епархіі і, выконваючы статутныя мэты, не страціць з поля зроку патрэбу развіцця нацыянальнай свядомасці.

**С.Н.**

# МАСТАК АЛЯКСЕЕЎ

- Колькі сябе памятаю - заўсёды маляваў. Яшчэ з дзіцячага саду. Уставаў а 4 гадзіне, на світанні - хапаў імгненні. Я тады добра бачыў, запамятаў колеры, - кажа Аляксей Аляксееў, мастак з Гародні. - Я тады вельмі добра бачыў...

Нарадзіўся Лёша пад Масквой. Калі яму было 4 гады, сям'я пераехала ў Баранавічы. Маляваў. Хадзіў займацца ў дзве мастацкія студыі. Успамінае свайго настаўніка Данілу Львовіча Цыргліна, выдатнага мастака і педагога. Сам таксама вёў заняткі ў студыі. Усе, хто займаўся разам з ім, трапілі ў мастацкія акадэміі. І ён паступіў у інстытут. Марыў стаць мастаком. І сталася бяда з вачыма - у 19 гадоў пачалася ў Лёшы дэгенерацыя сятчаткі, атрафія нерва зроку. Аляксей не мог вучыцца далей. Але застаўся на вучэльні ў Віцебску, працаваў натуршчыкам. Зрок усё пагаршаўся, але Аляксееў маляваў далей, для сябе. Пры моцных, усё ярчэйшых лямпах. "Я колеры памятаю" - кажа. Не думаў раней, што яго карціны будуць выстаўляцца. Дзякуючы Зоі Уладзіміраўне Крупнік, старшыні гродзенскага абласнога праўлення Беларускага таварыства інвалідаў па зроку, дэпутату Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якая не шкадуе сіл, часу і сэрца для людзей багатых душой, а пакрыўджаных лёсам, Лёша Аляксееў паверыў у сябе. Абразы Аляксеева пабывалі на выстаўках у Менску, у Санкт-Пецярбурзе (супольная з мастакамі-авангардыстамі), у Музеі рэлігіі ў Гародні (першая яго персанальная выстаўка), у Баранавічах, у Маскве... Зоя Крупнік, пасля сустрэчы з Янам Сычэўскім рашыла прывезці Аляксея Аляксеева ў Беласток.

- Я дамовілася са спадаром Сычэўскім наконт выстаўкі Лёшы, ведаючы, што тут, у Беластоку праводзіцца вялікая работа ў напрамку таго, каб прапагандаваць беларускую нацыянальную культуру. Трэба паказаць людзям, як сляпыя цягнуцца да жыцця, хочуць паказаць сябе іншым. Звярніце ўвагу:



*Аляксей Аляксееў, мастак*

так бачыць жыццё і свет менавіта чалавек, якога Бог абышоў, затое ў яго багатая душа, неверагодная фантазія. Чалавек ён вельмі шчодры, добры. Баюся, каб не звіхнуўся, каб яго слепата не заглушыла ў ім талент. Маё заданне, - кажа спадарыня Зоя, - дапамагчы яму, каб пра яго даведалася больш людзей. Гэта будзе для яго стымул для далейшай працы.

- Дзякуй вам, Зоя Уладзіміраўна, за клопат, за захвочванне, за ўвагу... Я нават і не марыў, што змагу паказаць свае карціны. Калі б не вы...

- І вось, бачыце, Лёша ад адной да другой выстаўкі рос, і так непазнавальна хутка. Адразу бачым почырк гэтага мастака; яго не памыліш ні з кім!

- Ці пагоршыцца ў мяне са зрокам?.. Аж да поўнай слепаты? Я, пакуль што, не аслеп (усмешка), малюю!

- Лёша сказаў, што калі не будзе бачыць колераў, будзе ляпіць, рэзьбіць. І першы бюст зробіць для мяне, - усміхаецца Зоя Уладзіміраўна. - Лёша, не трэба бюста, не трэба падзяк, не будзе слепаты! Не трэба пра гэта і думаць!..

Аляксееў не дае загалоўкаў сваім абразам. Дазваляе гледачу на свабоду інтэрпрэтацыі. На выстаўкі назвы карцінам давала жонка - цудоўны сябра і апора. Калісьці Лёша маляваў акварэллю, трохі алеем, а цяпер на кардоне пастэллю і гуашшу. Зацікаўлены рознымі накірункамі мастацтва - імпрэсіянізмам, постімпрэсіянізмам, абстракцыяй, сюррэалізмам, але яго карціны маюць свой, непаўторны стыль. Вобразы-сімвалы, станы душы. "А выстаўляцца трэба - гэта свята для мастака". Шкада прадаваць свае працы... На гэтай выстаўцы, арганізаванай БГКТ у Беластоцкай філармоніі (да канца верасня) можна было купіць 6 абразоў (з 32).

Зоя Крупнік цэлых 2 тыдні прабівалася на Беларусі (мытні, міністэрствы, тысячы паперак, тэлефанаў, клямак...) па розных "лініях", каб паказаць нам творчасць гэтага незвычайнага чалавека і мастака. Калі б не яе ўпартасць, моц пераканання і аўтарытэт дэпутата Вярхоўнага Савета РБ - не ўдалося б, пэўна. А ці хопіць такіх людзей, як Зоя Уладзіміраўна, каб на Беларусі магло быць нармальна?

**МІРА ЛУКША** *(Фота аўтара)*



*Адразу бачым почырк гэтага мастака, кажа Зоя Уладзіміраўна Крупнік*

## ЛЯВОН ТАРАСЭВІЧ У ШВЕЦЫІ

12 верасня г.г. адкрылася выстаўка палотнаў Лявона Тарасэвіча ў Галерэі мастацтва ў Мальмё (Швецыя). На самую выстаўку мы не даехалі (былі пэўныя клопаты з назбіраннем граша на білет), затое Лёнік не забыўся пра „Ніву" і даслаў нам каталог. Гэткім чынам мы атрымалі ўяўленне пра тую выстаўку і адначасова стымул, каб напісаць гэтую занатоўку.

Лявонавы выстаўкі пачаліся ў 1984 годзе, калі ён быў яшчэ студэнтам Акадэміі мастацтваў у Варшаве. Да сёлета ён прыняў удзел у звыш 60 персанальных і групавых выстаўках у Польшчы і па-за межамі (Швецыя, Вялікабрытанія, ЗША, Італія, Нямеччына, Галандыя, Францыя, Бразілія, Карэя, Ізраіль, Летува, Беларусь). Лёнік, што называецца, стаўся мастаком сусветнага значэння. Ягоныя велізарныя палотны, ягонае бачанне натуры — сталіся, можна сказаць, сучасным канонам жывапісу, які бярэ інспірацыю з прыроды ці, дакладней, з тае повязі чалавека з прыродай, якая характарызуе складаныя суадносіны чалавек — натура ў наш час.

Канцэпцыя жывапісу, закладзеная Лёнікам у пачатках сваё мастакоўскае кар'еры яшчэ ў варшаўскай вучэльні, трэба меркаваць, у сваіх прынцыпах ні трохі не пахіснулася. У шведскім каталозе мы можам прачытаць ягоную фармулёўку уласных мастацкіх памкненняў, зробленую якраз пад канец навукі ў Акадэміі. „Прысутнасць пейзажу" — гэтак называецца тэкст — застаецца для Лёніка, відаць, найбольш адэкватным маніфестам на сваёй творчай дарозе. Тэкст гэты выклікае ў мяне і больш прыватную ноту, паколькі недзе ў пачатку 1983 г. Лёнік прынёс тоненькі сшытак з запісам „Прысутнасці" ў маю тагачасную варшаўскую кватэру з просьбай перапісаць яго на машынцы і ўнесці некаторыя стылістычныя папраўкі, надаць яму, так бы мовіць, стылістычную згладжанасць. Потым гэты тэкст паявіўся і ў „Сустрэчах" (нумар трэці, бадай) у маім перакладзе на „маю тагачасную" беларускую мову.

У каталозе знойдзем таксама другі істотны Лёнікавы тэкст — „Варнанас" — напісаны пад уражаннем пабыўкі на

*(Працяг на стар. 8)*

# АД ЖУРНАЛІСТА ДА БІЗНЕСМЕНА

**ГУТАРКА З МІХАСЁМ ШАХОВІЧАМ, ПАЭТАМ І БЫЛЫМ ЖУРНАЛІСТАМ „НІВЫ", СЁННЯ — ПРЭЗАСАМ ВЫДАВЕЦКАЙ СУПОЛКІ „ПАГРАНІЧЧА", ЧЛЕНАМ ВЫДАВЕЦКА-ГАНДЛЁВАЙ СУПОЛКІ „МІХАЛІНЭУМ".**

*— Дык ты, Міхась, цяпер бізнесмен...*

— Калі так людзі кажуць, дык, пэўна, так ёсць, але я яшчэ гэтага не адчуў.

*—Ну, як жа не адчуў, ты ж кажаш, што ўчора абакралі тваю краму. Калі ты быў журналістам — такіх праблем не было.*

— Абакралі ўжо другі раз. Паліцыя іх злавіла. Застала дома п'яных ужо. Узялі не на шмат, але мітусні з гэтым многа...

*— Памятаю, як ты прыйшоў у „Ніву". Баршчэўскі зарэкамендаваў Міхася Шаховіча як вельмі здольнага студэнта, і рэдактар Валкавыцкі ўзяў цябе, хаця ты быў яшчэ толькі па трэцім курсе Беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.*

— Так, гэта было 1 жніўня 1975 года. Пасля трэцяга курса я перайшоў на завочнае аддзяленне.

*— Будучы журналістам „Нівы" ты найбольш займаўся фальклорам.*

— Этнаграфіяй, дыялекталагічным слоўнікам, а таксама гумарам і сатырай — гэта і сёння прыдаецца мне ў працы.

*— Але хапіла тваёй энергіі ўсяго на дзевяць з паловай гадоў, а пасля ты ўцёк у польскія „Кантрасты"...*

— Сідорскі запрапанаваў намнога большыя заробкі, „Ніва" у гэтым плане заўсёды цягнулася ў хвасце, а ў мяне ж ужо была сям'я. Я тады наогул лічыў пасаду ў „Кантрастах" сваім жыццёвым шанцам. Зрэшты, з гэтай уцечкай усё не было так проста.

*— Ага, успамінаю, што нешта там было.*

— У „Кантрасты" Ваяводскі камітэт ПАРП даволі доўга не даваў мне акцэптацыі, цягнулася гэта месяцы тры. А ўсё праз Доўгі Брод. Недзе на год перад маім адыходам з „Нівы" я паехаў туды на аўтарскую сустрэчу. Паехаў разам з Пятром Германюком, беларускім дзеячом з Аўгустова, які паходзіў з Доўгага Брода. Ён планаваў увесці там двухмоўныя знакі з назваю вёскі, якія, ужо падрыхтаваныя, стаялі ў стадоле яго сваяка. Мяне гэта справа нуртавала здаўна. Пісаў я і пра паланізацыю мясцовых назваў, і пра ўвядзенне двухмоўнасці ў мясцовых назвах.

Адбыўся партсход, людзі падпісаліся „за" ў пратаколе. Вёска была аднагалосная. Солтыс ці сакратар партыі, не памятаю дакладна, занёс у гміну гэты пратакол.

У панядзелак у рэдакцыі паявіліся тры афіцэры з бяспекі. І адразу — да галоўнага рэдактара. Нешта мяне цюкнула, бо з двума з іх я ўжо меў раней дачыненне. Галоўны рэдактар Валкавыцкі не на жарты перапалохаўся, усё паўтараў: „Я ж вас туды не высылаў!.."

Праз некалькі дзён выклікаюць мяне ў Ваяводскую камэнду на Сянкевіча. Ну і там знаёмы капітан кажа: „Пане Шаховіч, я можа лепшы беларус як вы, але дэмакратыя вось адсюль і дасюль", — і пальцам паказвае невялікі кавалак на сталe.

*— Якраз на лінейку?*



— На лінейку! Ну і прадаўжае: „Прызнайцеся, што вы ўкапалі двухмоўныя знакі!" „А хто іх выкапаў? — кажу я. — Бо іх жа там няма!" Я ведаў, што гайнаўская міліцыя канфіскавала іх са стадолы, і, хаця Германюк звяртаўся ў міліцыю, што не маюць права забіраць яго прыватную ўласнасць, знакаў не звярнулі.

Пасля быў тэлефон з „Палітыкі" ад намесніка галоўнага рэдактара Яна Бяка. Прасіў, каб я яму пра ўсё гэта расказаў, апісаў дакладна, як мяне выклікалі, пыталі — дзень па дню.

Больш мяне капітан не выклікаў і, кажуць, наогул знік з гэтага аддзела. Не хачу сцвярджаць, што па маёй прычыне. Мо пайшоў на пенсію.

Мяне прынялі ў „Кантрасты".

*— У „Кантрастах" ты таксама займаўся нацыянальнай тэматыкай і, як некаторыя лічылі, з новай пазіцыі пачаў „лупцаваць" беларусаў...*

— Як час паказаў, у многім я тады не памыляўся.

*— Але і з „Кантрастаў" ты адышоў.*

— З „Кантрастаў" адышоў, бо ліквідаваліся выданні РСВ, ранейшай выдавецкай суполкі. Жыццё прымусіла да гэтага. У прэсе працы не было. Дагэтуль я меў дачыненне толькі з газетамі і кніжкамі. Дык увайшоў у суполку з Эвай Шчукайтыс, былой працаўніцай „Кантрастаў", і мы заснавалі выдавецтва „Пагранічча".

*— Чым займаецца ваша выдавецкая суполка?*

## „ЭМІГРАНТЫ” Ў БЕЛАСТОКУ?

27 верасня г.г. на малой сцэне Беластоцкага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі адбылася прэм'ера п'есы Славаміра Мрожка „Эмігранты”. Незвычайнасць гэтага культурнага здарэння заключаецца ў тым, што п'еса выконваецца на дзвюх мовах — польскай і беларускай.

Рэжысёр спектакля Анджэй Якімец прыстасаваў трошкі свой тэкст да менталітэту беластоцкай публікі.

Недзе ў 60-тых гадах у Амерыцы сыйшліся жыццёвыя дарогі двух эмігрантаў з Польшчы — варшаўскага інтэлігента, які па палітычных прычынах уцёк за акіян, і нейкага „нашага” хлопца, жыхара маленькага мястэчка ва ўсходняй Беласточчыне, які апынуўся там, каб папрацаваць і зарабіць на лепшую будучыню сваёй сям'і. Абодва яны жывуць у падвале вялікага дома, дзе безупынна шуміць вада з туалетаў на паверхах. Варшавяк (іграе яго Ежы Лушч) нават у гэтым падвале адчувае сябе „панам”, асабліва пры беларускім „рабацязе”, скупым і хітрым, які працуе ў два разы больш, чым мясцовыя рабочыя і ашчаджае на ўсім, на чым толькі можна (іграе яго Уладзімір Кін-Камінскі з тэатра Янкі Купалы ў Менску). Яго скупасць ёсць не толькі смешнай (купляе самыя танныя кансервы ў магазіне, якія аказваюцца харчамі для сабак) але і ірацыянальнай (калі вернецца дадому — мяркуе — зарганізуе вялікі баль і запросіць усіх жыхароў мястэчка). У вачах варшаўскага інтэлігента з'яўляецца ён ідэальным нявольнікам. Такую прывязанасць да грошай і рэчаў лічыць ён горшым для чалавека, чым турма. Сапраўдная свабода гэта магчымасць вырашаць пра свой лёс, быць незалежным ад іншых людзей і рэчаў. Слоў гэтых не разумее чалавек, які гаворыць на беларускай мове. Яго праблема — гэта як здабыць танную ежу, дармовыя цыгарэты. Марыць аб прыгожых жанчынах, якіх бачыць кожны дзень, але якія яму зусім недаступны, нават каб пагаварыць.

Розніцы паміж польскім інтэлігентам і беларускім рабочым выступаюць на кожным кроку, у адносінах да ўлады, рэлігіі, грошай, уласнага здароўя. Паляк мае псіхалогію чалавека, які робіць што хоча, найчасцей ляжыць у ложку, чытае кніжкі і піша нейкія артыкулы, якіх ніхто і ніколі чытаць не будзе. Хаця яго становішча ёсць бесперспектыўнае і горшае, чым раней у Польшчы, але з'яўляецца яно вынікам ягонага свядомага выбару.

Беларус мае менталітэт беднага чалавека, які хоча адмяніць свой лёс і бачыць такую перспектыву. Дарога да будучага дабрабыту вядзе праз працу і ашчаднасць. Мэта ягонай актыўнасці —будучы дабрабыт, важнейшы чым гонар і свабода. Жыццё ў падвале не перашкаджае яму, бо не трэба плаціць за кватэру, зробленыя грошы трымае пры сабе, бо не давярае банкам, цыгарэтаў не купляе, у кіно не ходзіць, хаця вельмі хацеў бы.

Адно, у чым абодва эмігранты з Польшчы разумеюцца – гэта мова. Кожны з іх, хаця і гаворыць па-свойму, дасканала разумее адзін аднаго. Найважнейшае, што разумее іх беластоцкая публіка (пасля спектакля я нават пачаў задумоўвацца, ці так званая паланізацыя Беласточчыны не ёсць толькі беларускай выдумкай).

Абодва эмігранты, хаця думаюць і рашаюць свае праблемы паводле схемаў дамінуючых у славянскай Еўропе, аднак выступаюць з двух бакоў старога феадальнага падзелу. Сапраўды ў псіхалогіі беластоцкага беларуса можам дашукацца шмат чаго, што характэрнае эмігранту, створанаму Анджэем Якімцам. Аднак жа ўзровень прымітывізму, мужыцкай хітрасці і схільнасці да лёкайства літаратурнага героя ёсць некалькі разоў пабольшаны, чым у рэчаіснасці. Рэжысёр не пазбягае ўплываў, існуючых у польскім асяроддзі міфаў наконт беларусаў. Ствараў ён спектакль на знакамітым мастацкім узроўні, які аднак будзе толькі замацоўваць гэтыя міфалагічныя ўяўленні пра людзей, якія ў сапраўднасці былі і ёсць зусім іншымі.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# САКРАТ У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

Сталася так 27 верасня 1992 г., калі „Белавежа” наладзіла семінар у сувязі з выхадам менскага зборніка прозы Сакрата Яновіча „Самасей”. Семінар быў тлумны (сабралося два дзесяткі людзей!) ды інтэлектуальна шпаркі — абмяркоўвалі як аспекты творчасці Яновіча, гэтак і лёс беларускай літаратуры ў агульнасці. Але — па чарзе.

Уладзіслаў Рубанаў (рэдактар менскага „Самасея”) распавёў пра сваё знаёмства з творчасцю Яновіча і пра ажыццяўленне выдання „Самасея” ў „Мастацкай літаратуры”. Адначасова адзначыў клопаты ў выдаванні беларускай літаратуры ды ўвогуле беларускамоўных кніг у Рэспубліцы Беларусь. Выснова спадара Рубанава — рыначныя адносіны ў выдавецкай сферы не паспрыяюць замацаванню беларускага друкаванага слова і яго пашырэнню. Без дзяржаўнай падтрымкі беларускім выданням пагражае заняпад. На заканчэнне У. Рубанаў выказаў магчымасць (праўда — малаверагодную) публікацыі яшчэ адной кнігі С. Яновіча ў „Мастацкай літаратуры”.

Ян Чыквін, адзначыўшы істотную ролю С. Яновіча ў інтэлектуальным і грамадска-палітычным жыцці беларускай грамады ў Польшчы (з чым звязаныя таксама й некаторыя промахі крынкаўскага самасея), быў усё-такі вымушаны прызнацца, што проза Яновіча з'яўляецца выдатнай праявай літаратурнага і інтэлектуальнага жыцця беларусаў у Польшчы. У гэтым яго падтрымала Тэрэса Занеўская, якая сцвердзіла, што С. Яновіч з'яўляецца адзіным сапраўдным беларускім празаікам у Польшчы *z prawdziwego zdarzenia*, хоць прозу па-беларуску спрабуюць пісаць яшчэ некаторыя іншыя асобы.

Яўген Вапа крыху збянтэжыў героя семінара, сцвердзіўшы менавіта, што ў Сакратавых творах выразна назіраецца нешта накшталт „Эдыпавага комплексу” — у жаночай праблематыцы найлепш яму ўдаецца прадставіць суадносіны герой — маці, падчас калі іншыя жаночыя постаці ў ягоных творах явяцца ці то як шлюхі, ці то як нейкія іншыя курвы. Сакрат нешта адказваў Вапу, шматслоўна й вымоўна, але ўцяміць можна было толькі наступнае: *беларуская літаратура пішацца лёсам.*

Алег Латышонак сказаў нешта з такой вымовай: беларуская літаратура, няйначай, лясне, калі будзе прадукаваць такія кніжкі, як дагэтуль. У мяне, казаў Алег, шафы завалены беларускімі шматтомнікамі і аднатомнікамі, але чытаць іх не ў змогу. Беларуская літаратура адарваная ад жыцця і мастацка слабая, калі прыраўняць яе да эталонаў еўрапейскіх. Ніхто, акрамя спадара Рубанава, не стаў пярэчыць.

Ян Максімюк сказаў, што наогул Яновіча не чытае, але, тым не менш, яго паважае.

На гэтым больш-менш семінар і закончыўся.

**(Я.М.)**

### ІНФАРМАЦЫЯ

**У нашай рэдакцыі можна купіць наступныя выданні:**

1. „Кругавая чара” Яна Чыквіна (цана 20.000 зл.)
2. „Самасей” Сакрата Яновіча (20.000 зл.)
3. „Віры” Георгія Валкавыцкага (20.000 зл.)
4. „Родны схоў” Віктара Шведа (5.000 зл.)
5. „Маці і сын” Л.і Ю. Геніюшаў (20.000 зл.)
6. „Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie” ks. Grzegorza Sosny (30.0000zł)
7. „Kościół prawosławny na Białostocczyźnie w ocenie władz II Rzeczypospolitej” (15.000 zł.)
8. „Daremna podróż" Teresy Zaniewskiej (20.000 zł)

— Спачатку выдавалі брашуры з сенсацыйным зместам, 100-тысячным тыражом („Правінцыяльны маркіз дэ Сад” Эвы Шчукайтыс — зборнік рэпартажаў, „Ало, ці гэта КДБ?” — зборнік анекдотаў пра КДБ, „Наша пасцель” — зборнік эратычных анекдотаў, „Невядомыя рыцары” — кніжка для дзяцей). Выдалі мы таксама праваслаўна-каталіцкі (беларуска-польскі) каляндар, зборнік паэзіі „Ліловае неба” маладой лекаркі Яланты Васілеўскай, зборнік паэзіі Ежы Плютовіча „Матыль і камень”.

Ад 1 студзеня выдаем сатырычны штомесячнік „Od ucha do ucha” і „Wschodni megabiznes” — для бізнесменаў, якія сваю ўвагу накіроўваюць перш за ўсё на Беларусь. Цяпер падпісалі ўмову са Слонімам, з тамашнім буйным паліграфічным камбінатам, які друкуе нам дадаткі-квартальнікі да часопіса „Od ucha do ucha”. Ужо надрукаваны дадатак „Bukiet rymowanych życzeń” — гэта збор розных пажаданняў з кожнай нагоды: імянін, вяселля, хрэсьбін, пажаданні дзеду, бабе, ксяндзу і г.д.

У нас ёсць рэдакцыя двух часопісаў. Галоўным рэдактарам з'яўляецца Анджэй Палякоўскі, Аня Шаховіч, мая жонка, — сакратар, Люцына Шэпель — графічны рэдактар, Данута Прэдка — аквізітар.

— *Якія вашыя планы на бліжэйшую будучыню?*

— У друку ў Слоніме яшчэ два дадаткі: „Przyśpiewki” (іх 400) і унікат (Тувім выдаў калісь падобнае, але меншае) — „Pod rękę z Bachusem”, дзе будзе збор рэцэптур на алкагольныя напіткі, а таксама парады, як піць, якія гаварыць тосты, якія спяваць застольныя песні, а таксама розныя анекдоты і прыказкі на тэму піцця ды наогул алкагольны слоўнік. Будзе шмат рэгіянальных рэцэптур, бо мы выслалі каля 250 лістоў і атрымалі адказы з розных рэгіёнаў Польшчы.

— *Бачу, робіце ўсё, каб зарабіць...*

— Каб неяк пражыць. Цяжка прадаць кніжку, калі ў людзей няма на хлеб. Яшчэ пяць гадоў назад было інакш.

— *Ці плануеце выдаць штосьці па-беларуску?*

— Вельмі цяжка прадаць гэта ў нас. Прабуем дамовіцца са Слонімам, але яны бяруцца прадаваць гэтыя кніжкі толькі там. Мы вось з Уладзіславам Залескім плануем выдаць беларуска-польскі каляндар парадаў на 1994 год.

— *А твая крама, дзе ты членам трохасабовай (з Уладзіславам Залескім і Міхалам Хілімонюком) суполкі „Міхалінэум”?*

—Там прадае Мірка, дачка Міхася Хмялеўскага. Вучнёўскія прылады, гаспадарчыя тавары, хімія, касметыка, кнігі, часопісы. Сардэчна запрашаем! Гэта на Студзёнай 3а, на Антанюку, зараз за Святадухаўскай царквой.

— *Я заўважыла, што ты акружаешся людзьмі, якіх ведаў раней, з якімі працаваў. Ці маеш да іх больш даверу?*

— Прынамсі ведаеш чалавека, як з ім гаварыць, чаго па ім спадзявацца, якія ў яго недахопы. Ну, і наогул хачу, каб усе яны былі маімі партнёрамі.

— *На ліцытацыі „Кантрастаў” ты купіў права на гэты загаловак. Калі пачнуць выходзіць ізноў „Кантрасты”?*

— Пакуль ціха, вельмі дэфіцытны загаловак. Я спадзяваўся, што Аддзел грамадскіх спраў Ваяводскай управы дафінансуе. Аднак жа нічога пакуль што не далі.

— *Міхась! Ты член Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа”. Выдаў паэтычныя зборнікі: „Праміненне”, „Святая ноч”, „Напевы”, зборнік фельетонаў „Вада ў рэшаце”, а таксама яго адпаведнік у перакладзе на польскую мову „Woda w przetaku”. Ці сённяшняя твая праца не адбіла ў цябе ахвоту пісаць?*

— Не, якраз скончыў паэму „Распяцце”. У ВДК ужо два гады ляжыць зборнік „Рапсодыя”, падрыхтаваны да друку. Трэба будзе забраць яго. На Беларусі рыхтуецца збор паэзіі „Кліч”.

— *На заканчэнне яшчэ адна рэфлексія. Цяпер, калі дэмакратыі стала крыху больш як „на лінейку”, неяк не чуваць, каб хтосьці прабаваў ставіць двухмоўныя знакі...*

— Людзей перастала цікавіць нацыянальная праблематыка (можа толькі інтэлігенцыю), а эканамічныя праблемы ўзялі верх. Найважнейшае сёння — як купіць бутэльку малака дзецям. Прэса ляжыць на паліцах. Па-суседску ў „Саме” жанчына зрабіла пакупкі — нейкі хлеб, маргарын, кавалак белага сыру — і не заплаціла. „Ну, — кажа, — клічце паліцыю. Бярыце мяне, не маю чым заплаціць.” У бары нейкі чалавек узяў суп, мінуў касу і пачаў есці. Касірша да яго, а ён хутчэй есць, каб суп не забралі.

Галодны чалавек не думае ні пра культуру, ні пра знакі. Ён хоча есці. Ды й наогул, калі чалавеку нешта забараняюць, дык ён, быццам тая свіння, пра якую мне калісь расказваў Гайдук. Калі ўвойдзе ў твой агарод, а ты будзеш яе ганяць, дык яна ўвесь агародчык зрые. А ты адчыні брамачку, — казаў Мікола, — і яна сама паволі выйдзе.

Вёска сёння думае толькі аб тым, як прадаць мэтр жыта ці бульбы...

— *А ты, ці адчуваеш ты задавальненне ад сваёй працы?*

— Толькі каб пратрываць. Змаганне за існаванне. Дрыжыш, ці выдадзеныя кнігі пойдуць. Калісь, калі напісаў артыкул і ведаў, што людзі яго прачыталі, дык чалавек адчуваў задавальненне, а цяпер...

— *Дзякую за размову!*

**Гутарыла і фатаграфавала АДА ЧАЧУГА**

# БАЛАХОВІЧ

Працяг са стар. 4

Булак-Балаховіч. Жалігоўскі быў "таксама беларусам", свабодна гаварыў па-беларуску. У ягонай літоўска-беларускай дывізіі, не было бадай ніводнага літоўца, але беларусаў - процьма. 90% дабравольцаў, якія вясною 1920 г. прыйшлі ў гэтую дывізію, былі беларусамі. Гэта Літоўска-беларуская дывізія 15 жніўня спыніла на палях пад Радзымінам паход Тухачэўскага на Варшаву /сёння ў гэты дзень адзначаецца свята Войска польскага /. Цяпер мела яна вызваліць Вільню ад "жмудзінскага" гнёту. Рыхтуючы так званы "бунт Жалігоўскага" Пілсудскі прасіў беларускіх дзеячоў, каб увайшлі ва ўрад Сярэдняй Літвы і заявіў па-беларуску, што ён беларус і Беларусі крыўдзіць не дасць, але амаль ніхто яму не вырыў /апрача Іваноўскага і Тарашкевіча/ і паверыць не хацеў. Логіка нацыяналізму, нават зусім слабенькага, як беларускі, такая, што ніхто не будзе змагацца за не сваю дзяржаву, будзь яна сабе нават Вялікае княства Літоўскае.

Балаховічу даручалася не менш складанае заданне. Ягоная Беларуская народная армія мела вызваліць цэлую Беларусь, а калі б гэта не ўдалося, дык прынамсі Меншчыну /з часткай украінскага цяпер Палесся з Оўручам і Чарнобылем/. Прадугледжвалася федэрацыя балаховічавай Беларускай Народнай Рэспублікі і Сярэдняй Літвы /да якой мела далучыцца Гродзеншчына/ Жалігоўскага. Паводле Жалігоўскага мелася гэта быць Беларуская Літва. Паколькі заходнія саюзнікі Польшчы не прызнавалі існавання Беларусі, па загаду Пілсудскага Балаховіч вонкава прызнаў палітычнае начальства Расійскага палітычнага камітэта Барыса Савінкава. Дзякуючы гэтаму атрымоўваў ён ад Антанты грошы і зброю для сваёй арміі.

9 кастрычніка Жалігоўскі захапіў Вільню.

12 кастрычніка Балаховіч заключыў дамову з Беларускім палітычным камітэтам /палітычным прадстаўніцтвам арганізацыі "Зялёны дуб"/, паводле якой БПК меў дапамагчы ў арганізацыі беларускай арміі, а той у замен аддаць Камітэту палітычную ўладу на вызваленай тэрыторыі. На другі дзень урадавая польская прэса пісала:

"To co się stało w Wilnie i co się stać ma rzekomo w Mińsku, kruszy podstawy pokoju w chwili, kiedy on jeszcze nie został zawarty". І сапраўды, Пілсудскі гуляў лёсам Польшчы, прабуючы ўцягнуць яе ў вырашальную вайну з Савецкай Расіяй.

*/працяг будзе/*

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# НАША БЛІЗАРУКАСЦЬ

Дакладна вядома, што мы - беларусы на Беласточчыне - амаль усе скамунізаваныя. Але з такім камунізмам, які быў у нас, накінутым "лёгкай рукой" нашых уладароў - Гамулкі, Герка, Ярузельскага - можна было вытрымаць. Бо што гэта за камуна, калі сяляне мелі сваю ўласную зямлю ды амаль кожны раздабыў сабе трактар і машыны да трактара. Дзяржава давала "ўраднікам" беззваротныя пазыкі і датацыі, а калі ты быў добрым ілгуном ды ўмеў гарлапаніць на карысць партыі, дык лепшага жыцця шукаць нідзе не трэба было.

Але каб нам накінулі камунізм з "цяжкай рукі" Масквы, тады мы інакш заспявалі б. Крышку мы яго пасмакавалі за Берута, да Гамулкі. Ніхто тады чамусьці не імкнуўся ўступаць у гэтыя слаўныя калгасы-спулдзельні, а калі ўжо яны ўзнікалі, дык ішлі ў іх усяго адзінкі. У нас, у Дубічах-Царкоўных, напрыклад, у калгасе было толькі сем гаспадароў з сем'ямі. А грызліся паміж сабою як сабакі і нават да боек даходзіла.

Астатнія беларусы /лічыць трэба на 95%/ калгаснікаў цярпець не маглі, як і ўладу Берута, дарэчы. Калі Гамулка прыйшоў да ўлады, дык і тыя беларусы-спулдзельцы выскачылі з калгасаў як ашпараныя. Але гаспадары-адзіночкі, бывала, помсцілі ім за мінулае, білі вокны, на сценах і платах выпісвалі мянушкі галоўных арганізатараў калгаса. Часамі даходзіла нават да лупцавання былых калгаснікаў.

Я дасканала помню ўсё гэта, бо і мае бацькі былі ў калгасе /адна прычына - панадворак маіх дзядзькоў - заставіла іх туды запісацца/.

Зрэшты, я колькі помню, нашы людзі праклiналі кожную ўладу, хаця, як чуем, мелі "райскае жыццё". І таму ўзнікае пытанне, што мы за людзі? Я лічу: ні рыба, ні мяса.

Перад мінулагоднімі выбарамі ў Сейм агітаваў я ў сваёй аколіцы, каб людзі галасавалі за нашых кандыдатаў: Яна Чыквіна, Пятра Багроўскага і іншых. У вочы, а як жа, абяцалі галасаваць, але калі прыйшоў той дзень выбараў, дык выйшла навыварат. На выбары нашы людзі не пайшлі, а калі хто і пайшоў, дык свой голас аддаў на чужога - Цімашэвіча. А той Цімашэвіч с... на нас усіх. Хаця ён бізнесмен і капіталіст, аднак муціць ён нам вочы сваім "камунізмам", нейкім "левым крылом". Не дурнота і плыткадумнасць нашых людзей гэта, што завязаў ён так нам вочы? Напэўна так, магчыма, галасавалі б за абарванцаў, галышоў, крыміналістаў і сталіністаў, абы не за сваіх, за сумленных беларусаў.

Прыпамінаецца мне адна гісторыя /яе і сёння можна пачуць ад старэйшых жыхароў нашай вёскі/ з часоў савецкай акупацыі нашай зямлі - з гадоў 1939-41. Выбіралі тады саветы сваю ўладу - дэпутатаў, і патрэбныя ім былі адданыя людзі сярод нашых. Яны, такія людзі, знайшліся, дзякуючы мане і гарэлцы хутка парабіліся камуністамі, хаця толькі языком. Іх, па-праўдзе, дык і выбіраць не трэба было, за людзей зрабіў гэта ўжо савецкі апарат.

У нас у дэпутаты быў "выбраны" селянін мянушкай Пятлюра - у грамадзянскую вайну служыў у пятлюраўскай арміі на Украіне. За санацыі хваліўся ён, што бальшавікоў рубаў шабляй. А тут дубіцкая кліка камуністаў выбірае яго дэпутатам - не дзіўна гэта? Зусім не, бо такі чалавек якраз быў патрэбны камуністам. Ён без агаворкі падпісаўся пад дакументам аб вывазках у Сібір. З Дубіч вывезеных было ажно 18 сем'яў. Зрэшты, Пятлюра да канца жыцця заставаўся чалавекам подлым і нікчэмным. Восенню 1952 года ён першым запісаўся ў наш калгас.

Вось мне і здаецца, што жывем мы, на жаль, не сваім розумам, а чужым. Што нам кажуць, тое і робім, а пасля ўсе злосны на сябе і кусаем адзін аднаго.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

### ЛЯВОН ТАРАСЭВІЧ У ШВЕЦЫІ

*(Працяг са стар. 6)*

шведскім востраве Эланд і сутыкнення з тамашняй прыродай. Ну і, зразумела, — дыхтоўныя каляровыя рэпрадукцыі палотнаў Лёніка. Дарэчы будзе сказаць і тое, што каталог налічвае 80 старонак — гэта, кажучы папросту, сведчыць пра ўвагу і пашану скандынаўскіх прамотараў жывапісу, з якімі яны ставяцца да творчасці мастака з Валілаў.

**ЯН МАКСІМЮК**

### НА МАГІЛЕ ПРЭМ'ЕРА БНР

2 жніўня ў вёсцы Парэчча Пінскага раёна быў асвечаны крыж на магіле вядомага беларускага палітычнага дзеяча Рамана Скірмунта, дзе пахаваныя таксама ягоная сястра і яе муж.

Раман Скірмунт быў закатаваны разам з мужам ягонай сястры ў канцы восені 1939 г. мясцовымі актывістамі новых камуністычных уладаў. Перад смерцю былы прэм'ер урада Беларускай Народнай Рэспублікі сказаў: "Я нічога дрэннага людзям ніколі не рабіў".

Добрая памяць пра Скірмунтаў жыла сярод старых людзей Парэчча. Яны памяталі, як Раман Скірмунт дапамагаў бедным, ахвяраваў грошы пагарэльцам, даваў збожжа падчас неўраджаю, фінансаваў школы, а работнікі на ягоных фабрыках яшчэ пры ягоным бацьку бралі ўдзел у размеркаванні прыбытку. Памяталі людзі і пра тое, як Раман Скірмунт выратаваў вёску ад спалення палякамі - ён узяў ікону і стаў на калені перад польскім афіцэрам...

Мінула б яшчэ трохі ч[illegible] памерлі б людзі, і месца пахавання [illegible]унтаў магло згубіцца - старыя крыжы ўжо згінулі, а магілы зараслі. Дзякуй Бо[illegible], на Палессі людзі жывуць доўга і маюць добрую памяць. /.../

*І.Б./"Свабода" н-р 7-8, верасень 1992/*

ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# ЦЫГАНЫ

З адчыненага на першым паверсе акна радзільнага аддзялення чуваць было енкі родзячай жанчыны. Яны былі то ціхія, жаласлівыя, то насіляліся, залазілі пад скуру, раздзіралі душу. Маладая цыганка радзіла сваё першае дзіця.

Унізе пад вокнамі стаяла грамада цыганоў і чакала, з трывогай спаглядаючы ўверх, калі паявіцца на свеце новы цыган.

* * *

Стаялі так і чакалі, калі скончацца цярпенні блізкай ім асобы. Людзі наогул не здаюць сабе справы, што боль — гэта дабрадзейства для чалавека. Каб не ён, адкуль жа было б ведаць, што чалавеку патрэбны лекар?! Не заўсёды, аднак, боль сімвалізуе хваробу. Вось і роды хаця б. Калі б не тыя балючыя схваткі, жанчына магла б нават не зарыентавацца, што ўжо надышоў яе час, ды згубіць дзіця ў дарозе...

Ніякі боль у паняцці большасці людзей — які б ён не быў і чым бы не быў выкліканы — не атаясамліваецца з фізіялогіяй, а са страшэннымі мукамі. Нават у фільмах інакш нараджэння дзіцяці не паказваюць!

Дык вось і прыйшлі яны пад гэтыя вокны, каб памагчы ў цяжкую хвіліну сваёй дзяўчынцы.

* * *

У вакне партэра паказаўся лекар. Цыганы заварушыліся, загаманілі, пабеглі да яго. Толькі што былі ў прыёмнай, атакавалі сясцёр: як, калі, ці ўсё ў парадку... А мо лекар гэты ведае больш... А мо ўжо... — нецярпліваца яны. Лекар, убачыўшы гаманлівы натоўп, хуценька хаваецца ў вакне: зараз трэба будзе тлумачыць, абяцаць, даваць надзею... А што ж тут скажаш, калі пакуль нічога новага...

Разгубленыя цыганы ізноў у прыёмнай. Зачапляюць кожнага, каго толькі ўбачаць у белым халаце. Можа што скажа ці дазволіць пабачыцца з іхняй маленькай. Стаяць і просяць — маці, бацькі, нейкія цёткі, дзядзькі, ды розныя іншыя сваячкі таксама.

Будуць чакаць тут колькі трэба — да вечара, а мо і пазней. Пакуль іх цыганка не народзіць дзіця.

* * *

А так па-праўдзе, што яны ёй могуць дапамагчы?! Ї так сама нарадзіць мусіць. Лекары каля кожнай пацыенткі ходзяць. Праца адказная! Ну, гэтая, праўда, яшчэ можа аддзякаваць пасля, паваражыўшы лішні раз...

Але гэта толькі нам так здаецца. Маладой цыганцы са сваімі добра. Ведае, што яна ў гэтай бальніцы не самотная. Хаця не бачыць іх, то ўпэўнена, што яе найбліжэйшыя тут, побач з ёю. Ї гэта дадае ёй сілы ў яе першым жыццёвым змаганні.

* * *

Пад вечар пад вокнамі гінекалогіі пачуліся спевы. Цыганы і цыганкі — старэйшыя ў традыцыйнай вопратцы, а маладзейшыя ў больш моднай, бо ў скураных куртках да доўгіх квяцістых спадніц — прахаджваліся па алейцы, співаючы свае меладыйныя цыганскія песні. Усё ж будзе ёй весялей! Мо палёгшае ад песень. Быццам той наркотык, яны супакояць яе...

Зверху, з палаты, дзе памясцілі цыганку, чуліся ўжо адно распачлівыя крыкі. Раптам крыкі пачалі аддаляцца. Цыганку павезлі радзіць.

Цыганы ўнізе выразна ажывіліся. Заспявалі мацней. Віталі новага чалавека ў сваёй грамадзе.

* * *

Прывыклі мы да стэрэатыпу: цыган — значыць манюка, гуляка, ашуканец, злодзей, брудас. Іншага вобраза цыгана не хочам бачыць. А ці падумаў хто пра яго душу?! Пра пачуцці? Кажуць, у доме апекі над старымі цыгана не сустрэнеш. У яго дзяцей хапае дабрыні і цяпла, каб апекавацца сваім недалужным бацькам аж да канца. Так, як і ён апекаваўся імі.

Цыган як прыходзіць на свет, так і адыходзіць — не самотны.

* * *

Добра цыганам! Яны дык прынамсі спяць спакойна. Ворага сярод сваіх не шукаюць і ўпэўнены: цыган цыгану вока не выкале.

**АДА ЧАЧУГА**

### ПРА НАС У TVP

14 кастрычніка 1992 г. (серада) у І праграме Польскага тэлебачання перадача *Dalecy, a bliscy* будзе прысвечаная працы нашага тыднёвіка (паказаны будзе матэрыял з Бельска-Падляшскага, Орлі, Дубіч-Царкоўных і Гайнаўкі).

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ

## ДАПЫТЛІВЫ ЖУК І ПАВУК-МАНЮКА

Запытаў зялёны жук:
- Хто там у лагчыне?..
Ды маўчыць таўсты павук,
Круціць павуцінне.
- Дзе схаваў ты калаўрот?
Дзе твая кудзеля?
Як вады набраў у рот,
Моўчкі ніткі сцеле.
Ніткі тонкія, як шоўк.
- Як ты ўмееш прасці?
Ну, скажы, скажы, кумок,
Што ў цябе за снасці?..
Разгінаецца павук:
- Хто такі цікавы?
Адыдзі, зялёны жук,
Не твае тут справы.
З гэтых нітак я звяжу
Новыя панчошкі,
Не табе, вядома, жук,
А для мух на ножкі.
Жук ад смеху аж прысеў,
Лапкамі пастукаў:
- Знаюць, знаюць тут усе,
Ты, павук, манюка!..

## САВА І КРОТ

Чуе шум маленькі крот.
Страшна ў лесе, цемень.
Боль схапіў саве жывот,
Енчыць з нецярпення:
- Ку! Кугу! Кугу! Кугу!
Морыць мяне голад.
Больш цярпець я не магу!
Пуста тут і гола...
Дзе б злавіць крата ці мыш?!
Чым мне пажывіцца?..
Крыкнуў крот: - Я не глухі ж!
Знаю, як укрыцца...
І палез ён у нару,
У свой дом глыбокі.

А сава скрабе кару
На пяньку высокім.
- Забалела галава,
Аж у роце горка, -
Кажа хцівая сава
Са свайго узгорка.
- Выйдзі, кроцік! Любы мой!
Ты ж у аксаміце.
На касцюмчык гляну твой,
Кінь сваё укрыцце.
Не пазнала я цябе,
Ты ж усім вядомы.
Дам капейку на абед,
Выйдзі толькі з дому.
- Глянь ты лепей на сябе... -
Крот сказаў ёй ціха, -
Кіпці вострыя ў цябе
На якое ліха?!
Твой язык цяпер, як мёд,
Чуў я твае словы!.. -
І глыбей забраўся крот
У зямныя сховы.





*Беларусачкі.* *Фота Паўла Сарапені*

## СТРАШНЫЯ ВЕНІКІ

У старога чалавека, які пражыў доўгае жыццё, заўсёды ёсць чаму павучыцца. Таму я ніколі не прапускаю выпадку, каб пагутарыць з сівым дзядком альбо са старой бабулькай.

У гэты раз я шукаў багатыя чарніцамі месцы. Нагледзеўшы адну некранутую балацінку, вяртаўся дамоў лясной дарогай.

На светлай пасецы, парослай ружовымі кветкамі скрыпеню, заўважыў дзядка. Стары стаяў каля зялёнага куста бузіны і сцізорыкам зрэзваў галінкі.

- Ці не венікаў, дзядуля, з бузіны вырашылі навязаць? - пацікавіўся я, ведаючы, што старыя людзі хваробу выганяюць рознымі венікамі, часам нават звязанымі з крапівы-пякучкі.

- Венікі, - пацвердзіў ён. - Толькі не для сябе. Надта ж ужо жорсткія. Дый пахнуць кепска. А вось для мышэй яны ў самы раз. Лепшых і прыдумаць нельга.

- Гэта навошта ж мышам венікі? - смяюся я. - У лазню ж яны, пэўна, не ходзяць.

Дзядуля паклаў у кішэню складанчык і сеў на траву. Побач уладкаваўся і я.

- Навошта, пытаешся, мышам венікі? - усміхнуўся ён.

Стары памаўчаў з хвіліну, відаць, збіраючыся з думкамі, і растлумачыў:

- Справа ў тым, што мышы паху бузіны не паважаюць. Вось я навешваю бузінавых галінак у каморы, ні адна мыш і носа туды не пакажа. Крупы, мука - усё будзе цэлае.

- Гэтак яны бузіны баяцца?! - падзівіўся я.

- Як бачыш. Няблага да бузіны дабавіць пахучага рамонку альбо багуну. На гэтыя расліны яны таксама коса пазіраюць.

І сапраўды: колькі клопату і непрыемнасцей ад мышэй чалавеку. То мяшок з мукою паточаць, адзенне ўшчэнт парэжуць, з'ядуць моркву альбо буракі. У кубел з салам забяруцца.

І вось, аказваецца, ёсць просты сродак барацьбы з імі.

Я таксама нарэзаў сабе галінак бузіны, багуну наламаў. Прынеслі дзеці ў хату рамонкаў. Усё гэта я павязаў у невялікія пучкі і развесіў у кладоўцы.

Пакуль што спакойна. На паліцах некранутым стаіць тлушч, ляжаць крупы, гарох, мука усё ў цэласці, непапсаванае. Нават ніводнага сушанага баравічка не пагрызлі. А ўсё дзякуючы сівому дзядку.

РЫГОР ІГНАЦЕНКА

## ПАКРОВЫ
### (ПАКРОЎ БОЖАЙ МАЦІ)

Пакровы - праваслаўнае свята ў гонар таго, як у 910 годзе ў Канстанцінопалі Блажэннаму Андрэю і яго вучню Епіфану з'явілася Багародзіца, якая трымала над маленькімі ў храме белае пакрывала і прамаўляла малітву пра выратаванне свету.

У народным уяўленні паняцце "пакроў" атрымлівала куды больш шырокі сэнс, ахопліваючы самыя розныя прыкметы прыроды гэтага часу: "Святы Пакроў накрыў зямлю жоўтым лістом, маладым сняжком, ваду лёдам, пчалу мёдам", "...рыбу луской, дрэва карой, птаху пяром, дзеўку чапцом". Гаварылі, што на Пакроў зіма закрывае лета, а Бог пячатае зямлю пасля гэтага дня і да вясны ніхто не можа знайсці скарбаў. З гэтага часу пачыналася зімаванне скаціны ў хляве: "Пакрова - зарыкала ў хляве карова". Пра нерухавага гаспадара гаварылі: "Хто сее на Пакрове - не будзе мець чаго даць карове". Пакроў лічыўся надзейным паказчыкам прагнозаў надвор'я на будучае: "Калі да Пакрова дня снег не пакрые зямлю, то і на Каляды не будзе снегу"; "Якое надвор'е ў дзень Пакрова, такое яно і будзе ўсю зіму да вясны"; "Калі да Пакроў не было снегу, не будзе яго яшчэ дзве нядзелі"; "Калі ад Пакроў да свята Усіх святых (1 лістапада) краты зямлю точаць, то зіма будзе снежна і марозліва". Асаблівa пільна сачылі на Пакроў за напрамкамі ветру: з якога боку ён быў у гэты дзень, з таго боку ён павінен быў дзьмуць галоўным чынам і ў бліжэйшую зіму. Паўночны пакроўскі вецер прадказвае суровую зіму, а паўднёвы - мяккую, гнілую. Калі ж з раніцы задзьме ўсходні вецер, зіма будзе маласнежная, заходні - наадварот, вельмі снежная. Пчаляры прыкмячалі : калі даждлівы дзень на Пакровы - на наступны год пчолы збяруць багата мёду. У гэту вясельную пару хлопцы выглядалі сабе нявест, а тыя напярэдадні Пакрова варажылі на замужжа: набіралі ў хвартух апалае лісце і вытрасалі з прыполу - куды вецер панясе, туды і замуж ісці.

УЛАДЗІМІР ВАСІЛЕВІЧ

## ДУБ

Няўтульна стала ў лесе. Прывабнае чарналессе распранулася дагала, прасвятлела. Толькі каржакаватыя дубы насунулі бурыя шапкі, стаяць сумныя, панурыя - ніяк не хочуць расставацца са сваім убраннем. Іх пажоўклыя лісты яшчэ моцна трымаюцца за галінкі, але і яны час ад часу ад подыху ветру адрываюцца, падаюць на зямлю. Падышоў да волатапрыгажуна, узняў вышэй галаву і любуюся яго ўбраннем.

Непадалёк, чую, праляцеў зверху жолуд. Ён крануў куст арэшніку, зрыкашэціў ад ствала нейкага дрэўца і вось ужо ляжыць ля маіх ног на жоўтым лісце. Падняў яго, паклаў на далонь, а ён нібы просіцца: "Схавай мяне, мілы чалавек, ад лютых маразоў і рознай дзічыны. Прыйдзе час, пушчу моцныя карані ў зямельку, буду прыносіць людзям радасць, як і мой бацька - дуб".

УЛАДЗІМІР ШКАБРОЎ



# ПОВАР І ПАН
(Малдаўская казка)

Аднойчы адзін пан сабраўся на пагулянку, а повару загадаў засмажыць за гэты час гуся.

- Калі з'ясі хоць кавалачак, - папярэдзіў пан, - загадаю звязаць і так адлупцаваць, што і думаць забудзеш пра мяса.

- Зразумеў, паночку.

- Глядзі ж, калі зразумеў. Каб да майго прыходу гусь быў гатовы, не гарачы, не халодны, а ў сам раз на страўнік галодны.

Узяўся повар за справу, засмажыў гуся на славу - румяны, духмяны, аж у самога слінкі цякуць.

Цярпеў ён, цярпеў, адрэзаў гусіную ножку і з'еў.

Прыехаў пан, убачыў, што гусь без адной нагі, ледзь не лопнуў ад злосці і гневу.

- Ах ты, скнара! Я каму загадаў не чапаць гуся? Захацеў бабулю на тым свеце ўбачыць?!

- Дык жа гусь, паночку, цэлы.

- А ножку хто зжор?

- Паночку, у гуся была толькі адна ножка.

- Што ты мелеш? Дзе гэта бачылі, каб гусі аднаногія былі?! - усклікнуў пан, аплятаючы за абедзве шчакі смажаніну.

- Калі, паночку, не верыш, пойдзем да сажалкі, на свае вочы пераканаешся.

- Добра. Але калі падманеш - крыўдуй на сябе.

Пайшлі да сажалкі. Доўга ішлі ці мала, але вось і бераг. Дзень быў сонечны, цудоўны, і ўсе гусі стаялі на адной назе, прыхарошваліся.

- Ну вось, паночку, бачыш, усе гусі аднаногія.

А пан як плясне ў далоні ды як закрычыць:

- Гыля!.. Гыля!.. Гыля!..

Страпянуліся гусі, спалохаліся і разбегліся па беразе хто куды.

- Бачыш, - кажа пан, - ва ўсіх гусей па дзве нагі.

- Дык чаму ж ты, паночку, не крыкнуў і таму гусю: "Гыля!.. Гыля!.. Гыля!.."

Утаропіўся на повара пан, не ведае, што сказаць. Унурыў галаву, прамаўчаў. З таго часу больш не загадвае повару, каб не каштаваў смажаніны.



*Магдаленцы Бэдэнічук спаць яшчэ не хочацца.*
*Фота Міколы Ваўранюка.*

## Вершы Віктара Шведа

### У ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Запытаў бабулю дзетка:
- Што купіць на ўзнагароду?
- Могуць быць, унучак, кветкі,
Або касметычны сродак...

Адказаў на гэта Жэня:
- Вельмі я цябе шаную
І табе ў дзень нараджэння
"Альвейс" з крыльцамі куплю я!

### НЕБА ПАЛАМАЛАСЯ

На падворку так панура -
Свет за дажджу фіранкамі.
Страшэнная шалее бура
І гром грыміць з маланкамі.

Прыбег да мамачкі сыночак:
- Ці ведаеш, што сталася?
Мне цалкам асляпіла вочы!
Там неба ...паламалася!

## НАВОШТА ПЕЎНЮ АКУЛЯРЫ?..

На дварах дацкіх птушкаферм разгульваюць пеўні ў пластмасавых акулярах. Што гэта - жарт ці чыя-небудзь выдумка? Ні тое, ні другое.

Мясцовыя фермеры - людзі практычныя, кідаць грошы на вецер не стануць. Яны пайшлі на новыя выдаткі, параіўшыся з вучонымі. Як вядома, певень - птушка задзірыстая, а бai забіраюць нямала сіл і энергіі. Спецыялісты падлічылі: пакуль пеўні б'юцца, фермеры губляюць сотні кілаграмаў мяса. Рашэнне знайшлі нечаканае, але эфектыўнае. Аказалася, што лёгкія пластмасавыя акуляры, насаджаныя на дзюбу, перашкаджаюць глядзець удалячынь. Певень не бачыць сапернікаў і без перашкод набірае вагу.



## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

- Ведаеш, мама, з нашай школай нейкая дзіўная справа: настаўнікі нічога не ведаюць, заўсёды нас пра ўсё пытаюцца, а мы ж таксама нічога не ведаем!

xxx

- Сынок, бусел прынёс табе брацiка, - кажа мама. - Глянь, які ён маленькі...

- Не, - адказвае сын, - я хачу ўбачыць гэтага бусла.

xxx

Дзяўчынка на пытанне бацькі, ці хоча ісці пешшу, ці ехаць трамваем, адказвае:

- Магу ісці пешшу, калі ты будзеш мяне несці.

xxx

Вучань звяртаецца да сябры:

- Не магу ісці ў кіно. Трэба дапамагаць бацьку рашаць маю хатнюю задачу.

xxx

Маці: Васілёчку, глянь! Куранятка ўжо вылезла з яечка!

Васілёк (падумаўшы): А як яно туды залезла?

xxx

- Непрыгожы дом ты намаляваў, сынок!

- Ці ж я вінаваты, што гэты дом стары?

xxx

- Вой, гора, - бядуе бацька. - Цыгарэты скончыліся...

- Я табе, тата, прынясу, - суцяшае бацьку Міколка.

- Крама ж закрыта?

- Ды не, я збегаю ў клуню.

xxx

Чарада дзікіх гусей трымае шлях на поўдзень.

- Чаму мы ляцім за адным і тым жа важаком? - пытае малады гусак.

- У яго карта.

**ЯСЕНЬ**

### МІКОЛА ЧАРНЯЎСКІ

### ЕХАЛІ НЕКАЛЫ

З Некалаю Некала
на кірмаш паехала.
Лесам-борам
вёрст за сорак
везлі воз
ско-ра-га-во-рак.
Чулі: шмат на іх купцоў -
смяханцоў, гаварунцоў.
Некалы, як некалі,
ехалі ды нэкалі:
- Незнарок ці назнарок -
не з'явіўся Ніл на ўрок.
- Ніл дахаты нёс надзею:
"Наганю сваё ў нядзелю..."
- Сны ў нядзельку сніў на дачы,
не баяўся Ніл няўдачы.
- Ніл разгублена нямее -
напісаць і "н" не ўмее...
Следам беглі Некалкі:
- Ёсць загадак некалькі...
Некалы скумекалі:
- Нам адгадваць некалі.
Загадайце дзецям.
Мы ж далей паедзем...

### СКОРАГАВОРКІ

Шустры Шмыг,
шумны Шмяк -
вішань захацелі.
Шмяк - ш-шух!
Шмыг - шмак! -
З вішні паляцелі.

xxx

- Што ж я так? -
Войкаў Шмяк.
Войкаў Шмыг увішны...
Шмыг і Шмяк,
як на смак
"шышкі"
а не вішні?

xxx

Смык струну
у скрыпцы - смык:
сумны спеў,
самотны смык.

## ЛЕСАВІЧОК

Калі садзіцца сонейка і на зямлю апускаецца ноч, з Ласінага логу выходзіць Лесавічок з торбаю за плячыма. У той торбе заўсёды поўна зорак, а наверсе яшчэ і маладзік паблісквае.

Ідзе Лесавічок прасекаю, ідзе і, каб не было сумна, пачынае сам сабе загадкі загадваць. Загадае адну - і тут жа адгадае. А потым бярэцца за нову...

Так было і на гэты раз. Толькі выбраўся Лесавічок на прасеку - загадаў такую загадку:

*З выгляду - сястра вавёрцы,*
*А жыве ў глыбокай норцы.*

Загадаў і пачаў думаць-гадаць, як яе адгадаць. Нарэшце здагадаўся што да чаго і ад радасці ажно ўскрыкнуў:

- Гэта лісіца!

Весялей стала Лесавічку, і ён загадаў сабе яшчэ адну загадку:

*Шэры ды кірпаты*
*І на здзіў зіркаты.*
*Ноччу спаць не любіць -*
*Крыкам птушак будзіць.*

Зноў пачаў думаць-гадаць, як загадку адгадаць. Ды тут над прасекаю з'явілася нейкае страшыдла, залапатала крыламі, зарагатала, а потым ухапіла торбу з зоркамі і - на асіну. Гэта быў Сыч, пра якога загадка склалася.

Лесавічок аслупянеў адно:

- Хіба так жартуюць?!

Сыч толькі рагоча:

- Хо-хо-га! Хо-хо-га!..

Сеў Лесавічок на пень і ад крыўды заплакаў:

- Што я лясному народу скажу? Як ён без зорак і месяца жыць будзе?

- Прывыкне! - закрычаў Сыч з асіны. - У цемнаце лепш!..

Яшчэ мацней заплакаў Лесавічок. Але, на шчасце, прасекаю вяртаўся з абходу ляснік, даведаўся, што здарылася, абурыўся:

- Сыч, аддавай торбу!

Сыч і слухаць не хацеў, шухнуў з асіны на дуб і адтуль зноў зарагатаў:

- Хо-хо-га! Хо-хо-га!..

Узлаваўся ляснік, падняў стрэльбу ды як бабахне! У Сыча, праўда, не пацэліў, а лямку ў торбе - перабіў.

Бразнулася торба вобземлю, і зоркі рассыпаліся па траве. Лесавічок узрадаваўся, кінуўся збіраць, а ляснік дапамагае і заадно дакарае:

- Не будзеш другі раз пазніцца ў лесе! Інакш і самога ўкрасці могуць...

Пазбіралі яны ўсе да адзінай зоркі, пайшлі на гару, што сярод лесу ўзвышалася, і пачалі іх на неба закідваць. А скончылі добрую справу - сказалі ў адзін голас:

- Да раніцы свяціце!

І пайшлі кожны сваёй дарогай: лесавічок - у Ласіны лог, ляснік - у сваю вёсачку...

Цяпер Лесавічок ніколі не позніцца. З Ласінага логу выходзіць завідна. А прыйдзе на гару - развяжа торбу і пачынае закідваць зоркі на неба. Напаследак на самым краёчку і маладзік павесіць. І радуецца: усім відно будзе!

Вунь і зараз неба над лесам нібы ўсеяна зоркамі. А месячык які! Чысценькі. Пукаценькі. Так і просіцца ў хату замест лямпачкі.

**ЯРАСЛАЎ ПАРХУТА**



## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дзядзька Астрон! Я вучуся ў другім класе. Ты ўсім вялікім адказваеш на сны, мо адкажаш і мне. А прыснілася мне такое страхоцце, што нават расказваць баюся. Быццам я выглянула праз вакно. Там заўсёды было так прыгожа. А тут бачу, што за вакном знаходзіцца выспа. На гэтай выспе стаю я. Усюды навокал вада. Кругом. Я вельмі баюся. І раптам бачу яшчэ, што ў гэтай вадзе плаваюць акулы. Я ведаю, што яны могуць загрызці чалавека на смерць. Пачынаю дрыжаць ад страху.

І раптам з неба прылятае "UFO", „лётаючая талерка". Сядае на „маёй" выспе і забірае мяне. Мы шчасліва адлятаем. Прашу, дзядзечка Астроне, скажы, што мяне чакае пасля гэтага сну?

**Аня**

Анечка! Думаю, што чакае цябе нейкая цяжкая справа. Мо будзеш мець праблемы ў школе з вучобай. Непакоіць мяне і тая выспа, а асабліва драпежныя акулы, якія плавалі вакол цябе. Будуць нейкія людзі, якія падкінуць, быць можа, табе калоду. Скончыцца, аднак, усё добра. Бо, бачыш сама, прыляцела „лётаючая талерка" і выратавала цябе.

А мо ты проста аглядала выступленне акулаў у Беластоку, а пасля гэтага табе прысніўся гэты страшны сон?.. Быў бы ён навеяны рэчаіснасцю і наогул нічога б не абазначаў.

**АСТРОН**




### КВАШАНЫЯ БУРАКІ

На 1 кг дробных буракоў трэба ўзяць 1 лыжку жытняй мукі, 3 зубкі часнаку, 3 дэкі солі, паўлыжачкі цукру.

Жытнюю муку размяшаць з 3 лыжкамі летняй кіпячонай вады, старанна расціраючы і сочачы, каб не было грудак. Абабраць часнок, дробна пасячы яго, дадаць да расцертай мукі. Пакінуць у накрытым кубачку, у цяпле, на 48 гадзін.

Бурачкі памыць старанна шчоткай, спаласнуць, палажыць у гарачую ваду. Варыць пад покрыўкай каля 30 мінут, адцадзіць, астудзіць, абабраць, палажыць у выпараны слоік. Падрыхтаваную на працягу 48 гадзін муку перамяшаць з халоднай, кіпячонай вадой з соллю і цукрам /каля 4 шклянак/. Заліць гэтым бурачкі, накрыць выпараным палатном ці марляй. Праз 3-4 дні можна выкарыстаць гэту вадкасць для заквасні баршчу, а з бурачкоў можна падрыхтаваць салату або нарэзаць іх і падаць гарачымі. Можна таксама падаваць квашаныя бурачкі ў натуральным выглядзе да мясных страў.

Квашаныя буракі ў зачыненых слоіках можна пастэрызаваць на працягу 20 мінут. Астудзіць. Захоўваць у халодным, цёмным месцы.

**ГАСПАДЫНЯ**

# ГЕАГРАФІЯ МІФАМАНА

*Недзе ў канцы верасня завітаў у нашу рэдакцыю інжынер Барыслаў Рудкоўскі з Бельска-Падляшскага. Спадар Барыслаў парушаны быў да глыбіні душы тым, што ў сакрэтнай размове з Пятром Байко даведаўся пра ягоную пабыўку ў экзатычных краінах паўночнай Афрыкі і запрапанаваў, каб „Ніва" прадставіла прынамсі частку гэтых сенсацыйных падзеяў, у якіх прысутнічаў яе верны карэспандэнт. Інжынер Б. Рудкоўскі так апісаў неверагодную гісторыю з біяграфіі свайго сябра Пятра Байко, што не ўсе ў рэдакцыі маглі ў яе паверыць. Але — як кажуць — усяляк у жыцці бывае, а інжынеру Рудкоўскаму няма падстаў, каб не давяраць. Ведаем таксама, што Пятро Байко гэта вельмі скромны чалавек і нам ніколі не выявіў бы ён гэтых сенсацыяў. Таму адводзім месца пяру спадара Барыслава Рудкоўскага.*

* * *

Пазнаць геаграфію свету — гэта пасія Пятра Б., яго вялікая мара. І здарылася... Пятро Б. службова паехаў у Лівію. У гэту самую, што на афрыканскім кантыненце. Адным словам, пацягнула яго ў чужыну, у арабскі свет. Геаграфія не давала яму спаць. У гэтым, мушу прызнацца, я вельмі многа вінаваты.

Здарылася... У адным малым горадзе, палкамі збівалі да паўсмерці сабаку. У Лівіі ёсць звычай катаваць сабаку, каб ён апух ад удараў. Пакідаюць яго на нейкі час. Пасля вешаюць. Шкура тады адстае пры яе зняцці. Гэта вельмі бесчалавечна. Страшэнны здзек над безабароннай жывёлай. Дзеянне такое не ўкладваецца ў галаве нашага еўрапейца. Пасля ядуць сабачае мяса.

І вось „казус чорнай авечкі"... Пятро Б. чалавек добрага сэрца. Заступіўся ён за няшчасную жывёлу. Тады гаспадар са сваім сынам павярнулі свае палкі на Пятра. Пачалі яго абкладаць. Ягоны выгляд твару мала быў адметны ад араба. Дзеля таго П.Б. насіў з сабой у мяшочку сажу. Дык, час ад часу, націраў сабе ёю ўсю галаву і твар.

Пятро Б. пачаў крычаць. Зусім не па-арабску. Па-беларуску. На сваёй роднай мове крывічоў. Спынілі пабоі. Вынеслі кубак вады. Аблілі яго. Запрасілі ў хату. У хаце было ўсіх чацвёра: бацька, маці, сын і дачка. Частавалі Пятра сабачынай ды яшчэ якімісьці малюскамі. Далі каньяку, віна. Прасілі прабачэння. Усе былі ў страху. Разгаварыліся. Нечакана гаспадар сказаў: „За тое, што ты так дастаў кіяў ды не атрымаў львоў, — я табе аддаю сваю дачку Арду".

Арда... Арда... Імя для мяне нешта знаёмае. Ага! Гэта фракійская рака. Пазнаю геаграфію... Цяпер гэта дзяўчына... „Чыстая — як тая вада ў старажытнасці"... — сказаў бацька. Вочы ў Пятра прасвятлелі. Дух яму ў грудзях заперла. А тут прывялі Арду, ды пасадзілі каля яго. Прыгожая Арда!.. Копія егіпецкай Клеапатры.... Так і прымагніціла яго да сябе. Свет ужо яму здаваўся іншым.

Сабралі рэчы Арды, якія яна мела. Усё ўлажылі ў „Мерседэс" і Пятро развітаўся з цесцямі, рушыў у далейшую дарогу.

На месцы працы ў Лівіі прызначылі Пятру Б. сакратаркай адну маладую сірату, егіпцянку. Бацька і маці яе загінулі ў час шасцідзённай вайны. Пятро Б., як прыгожы і добры мужчына, спадабаўся егіпцянцы. Называлася яна Струма. Дык я ж ведаю. Гэта рака ў гары Рыла-Планіна. Геаграфія перада мною. Прычапілася да яго, як „рэпях да кажуха". — Забяры мяне з сабою ў Еўропу... Не пакінь... — Як жа гэта так, — запярэчыў Пеця. — Ты ж ведаеш, што я маю Арду. — Гэта нічога не значыць. У нас ёсць магчымасць мець некалькі жонак. Каб пераадолець бар'ер манагаміі, Пятру параілі прыняць веру міфамана. Будзе ён тады такі, як грэчаскія багі: што зажадае, то будзе мець і ім уладаць...

Мець яшчэ адну прыгажуню дома — вялікая спакуса. Дзеля таго варта аддаць усё. А тут патрэбна толькі перахрысціцца. Вырашыў ён прыняць міфаманства. Да гэтага часу хадзіў у праваслаўную царкву. Праўда, адзін раз на дзесяць гадоў... Цяпер Пятро Б. з доўгаю барадою стаяў босы на беразе заліва Сідра. У імя Зеўса і Геры прысягаў вернасць дзвюм: Ардзе і Струме. Пятро стаў міфаманам. Тут жа, у прысутнасці ўсіх, прынеслі ў ахвяру барана.

Будучы мяккасардэчным і добрым чалавекам, Пятро страціў прытомнасць. Дык ягоныя дзве законныя жанчыны паднялі яго і аднеслі ўбок. Тут падышоў жрэц з доўгім акрываўленым нажом. У імя Зеўса і Геры памахаў ім. Штосьці прамармытаў сабе пад нос. Тады звярнуўся да Пятра: „Уставай, міфаман!.. Мая твая не разумее... Мы так робім заўсёды. Паглядзі на свае жанчыны!.. У іх столькі радасці ў вачах..." Ледзь толькі апамятаўся наш беларус, як ужо прынеслі пеўня. Прыгожая птушка глядзела перапалоханымі вачыма на навакольных „гома сапіенс".

Паднеслі Пятру нож. Якісьці накшталт сярпа. Аддалі ў рукі. Уручылі нябогу кукарэку. Пятро сказаў: „Я не жывёлабойца". Гнеўна адхіліў усё. Хрысціянскі дух залунаў над ім!.. Тады пры ўсіх жа Арда нажом адпілавала галаву няшчаснай птушцы. Пайшлі дахаты. Нанава ўсе сабраліся. Стол багата быў закладзены сабачынай, вярблюджынай, асляцінай і іншымі ласункамі. Пятро быў узрушаны ўсім гэтым. Не ведаў, на якім свеце жывецца...

*(Праз тыдзень — як Пятро вяртаўся з Лівіі)*

**БАРЫСЛАЎ РУДКОЎСКІ**

## РАЗЕТКА НА "Э", "Ю" і "Я"

**Управа:** 1/ лірычны верш прасякнуты смуткам, 2/ выпадковае здарэнне, асобная падзея, 3/ сябелюбства, 4/ напрыклад, "Слова аб палку Ігаравым", 5/ маладая дзяўчына, 6/ вартасць, прыгоднасць, адзнака адрозненнія, 7/ чорная таполя, 8/ іначай ёлка.

**Улева:** 1/ каманда, асабовы састаў, 2/ народнасць у Расійскай Федэрацыі, 3/ выпуск, выпраменьванне, 4/ загадчык гаспадаркі, 5/ выраз уласцівы яўрэйскай мове, 6/ народ у Інданезіі, 7/ прыгожанькая сярод пладоў, 8/ вялікі гнеў, страшная злосць.

**ядань**




Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 35 н-ра: Упоперак:** Купала, ушчэрб, бас, нарэзка, трактар, вось, шалаш, знак, індыга, аматар, сякера, задыяк, вада, скарб, кроп, лаўрэат, вяроўка, аса, ахапак, здрада. **Уніз:** канава, парасон, лаза, штаб, эстонка, барока, барада, страва, шыфер, банда, ікс, рак, яндоўка, анкета, зарыва, ятроўка, звалка, справа, рэха, град.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае Лукаш Пацэвіч з Беластока.




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel.210-33.
Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранові ч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Яланта Панфілюк (карэктар), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1993 r. upływa 20 listopada 1992 r.
2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## ІМПАРТГУМАР

Новы начальнік сакрэтнай службы знаёміцца з супрацоўнікамі, пераходзячы ад стала да стала.
- А вы хто? - пытае ён служачага, увайшоўшы ў чарговы кабінет.
- Наш аддзел настолькі сакрэтны, сэр, што я нават не ведаю - хто я і чым займаюся!

* * *

Настаўнік пытаецца хлопчыка:
- Білі, кім ты станеш, калі вырасцеш?
- Паліцэйскім, сэр.
- А ты, Джымі?
- Гангстэрам, сэр, каб мы маглі разам гуляць.

* * *

Карэспандэнт:
- За месяц работы ў міліцыі вы дасягнулі значных поспехаў. Як вам удаецца адшукваць скрозь сцены схаваныя ў гастраномах прадукты?
Інспектар:
- Я проста карыстаюся радыяцыйным дазіметрам...

* * *

Нарачоная Тома не была асаблівай прыгажуняй, таму, калі пасля шлюбнай цырымоніі ён спытаў вікарыя, колькі ён яму вінаваты, той паціснуў плячыма і сказаў:
- Дайце столькі, колькі вы лічыце патрэбным за шчасце мець гэту ледзі сваёй жонкай.
Том паглядзеў на сваю жонку і даў вікарыю дзесяць шылінгаў.
Вікарый, у сваю чаргу, паглядзеў на жонку Тома і даў яму сем шылінгаў рэшты.

* * *

Малы Вілі прынёс ліст настаўніцы ад маці. "Дарагая міс Пібодзі, - пісала маці Вілі, - не задавайце, калі ласка, хлопчыку задачак дамоў, у якіх бутэлька віскі каштуе ўсяго дзесяць шылінгаў, а то мой муж з-за гэтага не можа заснуць. Усю ноч ён паўтарае: "Няўжо ж быў такі цудоўны час?"

**Падборку зрабіў ЯСЕНЬ**







### ДА САТЫРЫКАЎ

Калісьці была ў нас сатыра змагарная.
Сёння маем сатыру маўклівую.
Не надта вядома, з каго і з чаго можна смяяцца.
Такі час настаў.
А жыць няма за што.
Давайце сістэматызаваць людзей, пасады і тэмы, якія трэба замоўчваць. Тое, што астанецца, будзе можна абсмейваць удоваль.
Вось папярэдні спіс польскіх табу:
1. Прэзідэнт *(бо Прэзідэнт)*.
2. Парламент *(бо ён наш, вынік свабодных выбараў і цяпер няма чаго круціць носам!)*.
3. Дэмакратыя *(не таму мы за яе змагаліся, каб цяпер высмейваць)*.
4. Касцёл *(па вядомых прычынах)*.
5. Традыцыйныя Вартасці *(бо сцеражэ іх ЗХН — Хрысціянска-нацыянальнае аб'яднанне)*.
6. ЗХН *(бо сцеражэ Традыцыйныя Вартасці)*.
7. Дэмакратычная унія *(бо ў яе аграмадныя заслугі ў барацьбе за свабоду)*.
8. КПН — Канфедэрацыя незалежнай Польшчы *(глядзі вышэй)*.
9. ПЦ — Пагадненне Цэнтр *(глядзі вышэй)*.
10. Іншыя партыі *(глядзі вышэй)*.
11. СДРП — Сацыял-дэмакратыя Рэчыпаспалітай Польскай *(быццам можна, але колькі ж можна?)*.
12. Русія *(Сталін, камуна, НКУС, лагеры і т.д.)* і іх развaленая імперыя *(навошта? Гэта ўжо стала нудным)*.
13. Беспрацоўе *(надта балючае пытанне?)*.
14. СНІД *(надта сур'ёзнае)*.
15. Дэкамунізацыя *(надта рызыкоўнае)*.
16. Гаспадарка *(надта трагічнае)*.
17. Палітыка *(глядзі пункт 2)*.
18. Камунякі *(глядзі пункт 11)*.
19. Урад *(які? Пaдасца ў адстаўку, пакуль паспеюць яго абсмяяць)*.
20. Жыццё *(а якое ж гэта жыццё?!)*.
21. Іншыя тэмы *(іншыя тэмы нікога не цікавяць)*.
Тады што і хто астаецца?
Мы праверылі.
Адзіным поўнасцю безабаронным і бяспечным аб'ектам сатырычнага абсмейвання можа быць Шпунец Мар'ян, гадоў 54, які пражывае ў Сухой-Падвавельскай, Гажоўскае ваяводства, кафляны пячнік па прафесіі.

**ЗОФІЯ СТЭЦКАЯ**
*(Карузэля)*

<u>З падслуханага</u>

### ТУРБОТЫ

— Доктар, я вельмі хвалююся за сваё здароўе!
— А што вас турбуе?
—Вось ужо колькі часу мне здаецца, што ў некаторых выказваннях маёй жонкі ёсць здаровы сэнс.

**Падслухаў У. Волкаў**

## МАКАТРАЗМЫ

### КЕМЛІВЫ

Лізнуўшы акраец даўніны,
Натужна, як той Сізіф,
Будуе падмурак вышынны
Пад собскі нязбыўны міф.

### АКСЕЛЕРАЦЫЯ

Пагалоскі рост:
- Накруціце ёй хвост.

**СІДАР МАКАЦЁР**

<u>Узятае з жыцця</u>

### СКАЖЫ, КАЛІ ЎМЕЕШ

- Было гэта ў час акупацыі, - расказвала Стэфка сваёй сяброўцы Манечцы.
- Позняй восенню паехаў мой Міхась у лес па дровы. У адзін бок трэба было ехець пятнаццаць кіламетраў. Пад вечар Міхась змучаны вярнуўся дамоў. Мокры прыйшоў ён у хату, наеўся гарачага бульбянога супу і палез на печ грэцца. Калі на дварэ пашарэла, пайшла і я ў ложак. Забылася аднак засунуць засаўку ў сенях і калі задрамала, пачула, як хтосьці ўвайшоў у хату. У цемнаце я ледзь распазнала па ваеннай форме, што гэта немец. Памаленьку падышоў ён да ложка і стаў мацаць коўдру, а пазнаўшы, што пад ім ляжыць жанчына /я так перапалохалася, што і не адзывалася/, скінуў шапку, дзягу, мундзір, боты і ўлез да мяне. Калі немец стаў мяне мацаць Міхась на печы пачаў хмыкаць і рохкаць, бы той вяпрук. Немец на нішто не звaжаў і стаў да мяне дабірацца не на жарты. А Міхась на печы штораз галасней хмыкаў і соп. А калі мая справа з немцам пайшла далей і глыбей, Міхась не вытрымаў і адазваўся:
- Стэфка!
- Чаго там табе, - адказваю я.
- Стэфка, мусіць гэты немец з табою кахаецца.
- Ну, як так, дык што?
- Тады чаму ты не боронішся і нічога не гаворыш?
Я тады адказала яму са злосцю:
- Дык ты скажы, халера на цябе, калі ўмееш па-нямецку, бо я гэтай мовы не ведаю, - голасна смеючыся, закончыла сваю ваенную аповесць Стэфка.

**УЛАДЗІМІР ЦІЛЮЛЬКА**




**Ён:** Сэрцайка, я сябрую са сваёй дзяўчынай ужо чатыры гады. Першы год было вельмі файна. Я за ёю свету не бачыў. Калі мы пазнаёміліся, мне было ўсяго 19 гадоў. Яна была на чатыры гады старэйшая. Ведала ўжо нямала. Я да яе меў пару дзяўчат, але фактычна навучыла яна мяне ўсяму. Калі пазнаў я яе, тыя першыя перасталі мець якое-колечы значэнне. Я даведаўся, як можна быць каханым і як кахаць. Я не мог абыйсціся без яе ніводнага дня. Калі былі мы на працы, дык не мог дачакацца, калі сустрэнемся.

У нас свой дом, і бацькі мае нічога не мелі супроць таго, што мы сустракаліся ў маім пакоі. Яна была вельмі вопытная, але паступова набіраў вопыту і я.

Праз год я пазнаёміўся з іншай прыгожай дзяўчынай, з якой пачаў утрымліваць таксама палавыя зносіны. Я не хацеў парываць сувязяў з першай, бо яна мне не перастала быць мілай. Мне здавалася, што мае пачуцці да яе вечныя. Але ж вось на забаве ў адной з вёсак /дзе жыве мая цётка, я ёй там памагаў капаць бульбу/ я пазнаёміўся з маладзенькай беластаччанкай. Усяго 17 гадоў ёй было. І з ёй я пачаў сустракацца, праўда, радзей, два разы ў месяц прыблізна.

Я думаў, што мая найважнейшая дзяўчына нічога не заўважыць. Заўсёды ж сустракаўся з ёю, калі толькі хацела. Праўда, бег часамі ад адной да другой. Але, яна, глянь ты, заўважыла. Кажа мне калісь: "Дзе гэта ты быў? Магу залажыцца з табой, што ў дзяўчыны!" Я жахнуўся і пытаю, з чаго гэта яна ўзяла. А яна і кажа, што здагадалася па сперме. Я ёй тлумачу, што колькасць спермы не мае значэння - адзін раз можа быць яе больш, другі - менш. А яна мне на гэта: "Я не па колькасці мяркую, а па запаху!" Я амярцвеў. Сапраўды я вяртаўся ад той апошняй дзяўчыны. Што тут было гаварыць? Словы былі лішнія. Я, аднак, да нічога не прызнаўся. Скажы, Сэрцайка, ці яна мне гаварыла праўду, ці проста так сабе жартавала? Я не магу жыць без яе.

**Антон**

Мяркую, што твая "найважнейшая" дзяўчына назірала за табой ужо нейкі час. Ты іх панумараваў, а дзяўчаты нумарацыі не прызнаюць. Кожная з іх, праўдападобна, кахала цябе і хацела быць адзінай. А той, якая "пусціла цябе ў свет", было асабліва прыкра, хаця і даў ты ёй нумар адзін. Зрэшты, была больш вопытная. Такую, відаць, не правядзеш. Прыглядалася, прыглядалася, ды ўрэшце не вытрывала ды сказала. Пэўна, ужо і раней заўважыла, ды яшчэ не была ўпэўнена.

А цяпер ужо не мела сумненняў. І праўда, кажуць, што сперма пры першым палавым акце мае найбольш інтэнсіўны запах. За кожным наступным разам будзе мець крыху менш. А ты пра гэта не ведаў, бачыш.

Думаю, што тая дзяўчына нумар адзін табе ўжо не даруе. Шукай менш вопытных!

**СЭРЦАЙКА**

**P.S.** Праз тыдзень чытайце, што меркавала на гэту тэму **яна.**

